ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год XXIX Нью Ёрк — Лістапад-Сьнежань — 1980 № 283-284
Vol. XXIX New York — November-December — 1980 № 283-284

# СЬВ. ПАМ. СТАНІСЛАЎ СТАНКЕВІЧ

**(23-II-1907 — 6-XI-1980)**



## ПАХОВІНЫ Д-ра СТАНІСЛАВА СТАНКЕВІЧА

**„Сьпі, Працаўнік і Змагар . . .”**

Яшчэ ў нядзелю 2-га лістапада ён дзяліўся із старшынём галоўнае ўправы БАЗА сп. Шукелайцем, частым наведвальнікам яго апошнім часам, сваймі меркаваньнямі пра чародны калядны нумар „Беларуса”, чытаў, неперабіты йшчэ на машынцы рукапіс — канчатак кнігі пра Янку Купалу. А раніцой у чацьвер 6-га, змучаны недамаганьнямі апошніх дзён, прылёг адпачыць на гадзінку-другую, заначыўшы перад тым у гутарцы з жонкай, што, устаўшы, будзе мець яшчэ „спакойны дзень працы”. Задаволена заснуў. Але гадзінка-другая сну сталася вечным супачынам . . .

Гэтак ціха, нат урачыста, скончылася бурнае, даўгое й працавітае жыцьцё Станіслава Станкевіча: пачалося на адным канцы сьвету, у малых Арлянятах, а завяршылася на другім — у вялізманым Нью Ёрку. У прамежку, на прасьцягу 73-ох гадоў, прагрымелі дзьве сусьветныя войны з голадам, холадам й жудасьцяй гвалту; мяняліся акупацыі, адна за адну жахлівейшыя; пралягло раздарожжа эміграцыі. Праз увесь гэты шлях трывалай заставалася адна канстанта — Беларусь, справа ейнае незалежнасьці й свабоды. Яна была мэтай, крытэрыем ацэнак і асноўным рухавіком у працы. Пра гэта засталіся сьветчыць перад нашчадкамі навуковыя, публіцыстычныя й палемічныя працы, перадавіцы, артыкулы ды нататкі Станіслава Станкевіча — „Язэпа Каранеўскага” — „Алеся Крыгі” — „Дзівасіла” дый „іншых” — спад тае самае рукі, ад таго самага сэрца.

У пятніцу ўвечары, у пахавальным доме Квіна на Гілсайд авэню ў Джамэйцы, недалёка ад дому, дзе жыў, і паштамту, куды з напорнай рэгулярнасьцяй прыяжджаў па пошту „Беларуса” — Архімандрыт Язэп Строк, даўны прыяцель сям'і Станкевічаў, адслужыў Паніхіду; у разьвітальным слове адзначыў руплівую працавітасьць Нябожчыка, які друкаваным словам злучаў у вадно цэлае раськіданых на эміграцыі суродзічаў.

Назаўтра па супольнай Паніхідзе, адслужанай Архімандрытамі Уладзімерам Тарасэвічам з Чыкага й Язэпам Строкам, картэж аўтамабіляў накіраваўся зь Нью Ёрку да Беларускага Магільніка ў Іст Брансўіку: апошнія 90 кілямэтраў зямнога шляху. „Ішлі мы за Ім, а цяпер Ён — за намі”, ціха прамовіў на разьвітаньне ў ньюёркаўскім пахавальным доме Архімандрыт Язэп Строк . . .

Газэта „Нью Ёрк Таймс” гэтага дня падала вестку пра сьмерць доктара Станіслава Станкевіча, выпускніка Віленскага ўнівэрсытэту, рэдактара выдаванае Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем газэты „Беларус”. За ёй, наступнага дня, падало пра гэта таксама „Новое Русское Слово”.

Паніхіду над магілай адслужыў Архімандрыт Ул. Тарасэвіч у прысутнасьці Архіепіскапа Мікалая, Архімандрыта Язэпа Строка, а.а. Аляксандра Яноўскага й Расьціслава Войтанкі — Нябожчык злучыў у вадно на гэты мамэнт розныя веравызнаньні й юрысдыкцыі — ды вялікае грамады суродзічаў зь Нью Ёрку, Нью Брансўіку, Саўт Рывэру й наваколься.

Архімандрыт Тарасэвіч сказаў слова разьвітаньня й духовага пацяшэньня. Прамаўляў над магілай, і сям'і Нябожчыка бел-чырвона-белы сьцяг перадаў, старшыня Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня Антон Шукелайць. Усе разам разьвіталіся словамі супольнае малітвы й супольнае песьні: „Вечная памяць” — „Сьпі пад курганам гэрояў”. . .

За сталамі хаўтурнае бяседы ў Беларускім Цэнтры ў Нью Брансўіку прамаўлялі сп.сп. Антон Адамовіч, Архіепіскап Мікалай, Архімандрыт Уладзімер Тарасэвіч, Архімандрыт Язэп Строк, Пётра Кажура, старшыня ньюбрансўікаўскага аддзелу БАЗА, Янка Запруднік, сп-ня Марыя Станкевіч, а. Расьціслаў Войтанка, Уладзімер Русак, Антон Шукелайць, Мікола Кунцэвіч.

Вечная Памяць Станіславу Станкевічу!

**Янка Запруднік**

## Др. СТАНІСЛАЎ СТАНКЕВІЧ

**„Як і вялізарная колькасьць маіх суродзічаў на Бацькаўшчыне, я ня больш і ня менш, як глыбака пераканаины беларускі патрыёт, і, як гэткі, сьмяротны вораг штучна творанага гэтак званага савецкага патрыятызму, што на самой рэчы не становіць сабою нічога іншага, як выяў традыцыйнага расейскага нацыяналізму й каляніялізму, адно захварбаванага ў вабставінах Беларусі некаторымі лякальнымі беларускімі рысамі”.** — Станіслаў Станкевіч. Мой адказ ЦК КПБ. „Беларус” № 137, верасень 1968 г.

Шостага лістапада 1980 году памёр неспадзявана ў сьне ў сваім ньюёркаўскім памешканьні др. Станіслаў Станкевіч, выдатны беларускі дзеяч апошняга паўстагодзьдзя, галоўны рэдактар газэты „Беларус”.

Др. Ст. Станкевіч нарадзіўся 23-га лютага 1907 году ў Арлянятах (пастарому Урлянятах) каля Барунаў, (Крэўскае воласьці, Ашмянскага павету, Віленскае губэрні. Бацькі нябожчыка Язэп і Эміліья (з дому Станкевічанка, родная сястра др. Янкі Станкевіча) працавалі на собскай гаспадарцы.

Станіслаў Станкевіч вучыўся ў Віленскай Беларускай гімназіі. І толькі на апошні перад матурай год пераехаў у Вялейскую дзяржаўную польскую гімназію ймя Г. Сянкевіча, дзе дырэктарам быў Беларус Станіслаў Любіч-Маеўскі, і там атрымаў матуру ў 1927 годзе (Віленская Беларуская гімназія ў гэным часе ня мела яшчэ дзяржаўных правоў і не давала магчымасьцяў па ейным заканчэньні залічацца на ўнівэрсытэт).

Вышэйшую асьвету здабываў будучы літаратуравед Станіслаў Станкевіч на гуманістычным факультэце Віленскага польскага ўнівэрсытэту ім. Ст. Баторага, які й скончыў у 1933 г. з тытулам магістра філязофіі ў галіне польскае й славянскае філялёгіі (тэма магістэрскае працы: “Żywioł białoruski w utworach Elizy Orzeszkowej”.)

Скончыўшы ўнівэрсытэт, мгр. Станіслаў Станкевіч заняўся далейшым вывучэньнем польскае раманітычнае літаратуры на Беларусі. У 1936 годзе выйшла друкам вялікая ягоная праца ў польскай мове: “Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej. Część I. Do roku 1830”. За яе, пасьля зданьня экзаменаў увесну 1936 г., Віленскі ўнівэрсытэт прызнаў Станіславу Станкевічу тытул доктара філязофіі ў галіне польскае й славянскае літаратуры.

У студэнцкія гады малады Станіслаў Станкевіч выявіў сябе на арганізацыйнай і журналістычнай ніве. Ён быў актыўным сябрам беларускіх студэнцкіх арганізацыяў: Беларускага Студэнцкага Саюзу й рэдактарам ягонага органу „Студэнцкая Думка” ды адным з заснавальнікаў і старшынём Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы, а таксама лектарам з нагоды розных юбілеяў і ўрачыстасьцяў. У гэтым самым часе ён супрацоўнічаў у выдаваных у Вільні літаратурных часапісах „Нёман”, „Калосьсе” й „Маладая Беларусь”.

У 1937 годзе др. Ст. Станкевіч дастаў стыпэндыю на вывучаньне паўдзённа-славянскіх моваў і літаратураў ды цэлы школьны 1937/38 год прабыў у Югаславіі й Баўгарыі. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, ён працаваў настаўнікам Дзісенскай польскай гімназіі, а пасьля далучэньня Заходняе Беларусі да БССР у 1939 годзе — выкладчыкам Беларускага Настаўніцкага Інстытуту ў Навагрудку.

Другая сусьветная вайна й нямецкая акупацыя Беларусі стварылі некаторыя магчымасьці працы на карысьць беларускае справы: для аднаўленьня беларускае адміністрацыі, адраджэньня рэлігійнага жыцьця, арганізацыі школьніцтва, дзейнасьці вайсковых і грамадзкіх арганізацыяў. І др. Ст. Станкевіч пакідае навуковую й пэдагагічную працу ды пераходзіць у адміністрацыю: спачатку на становішча старшыні Барысаўскае акругі ў зоне нямецкае вайсковае адміністрацыі, а пасьля ўтварэньня Беларускае Цэнтральнае Рады — намесьніка Прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. На гэтых становішчах гэнай цяжкой ваеннай парой Нябожчык выдатна спраўляўся з вымогамі адміністратара, годна рэпрэзэнтаваў беларускае ймя, здабываючы прызнаньне й пашану мясцовага беларускага жыхарства й чужынцаў.

Вось для прыкладу. На пісьмовым стале д-ра Ст. Станкевіча ляжыць кніжка сьветчаньняў і ўспамінаў Гэбрэяў, што перажылі зьнішчэньні іх на Беларусі за гітлерскімі часамі. Згадваецца ў ёй таксама Барысаў і др. Ст. Станкевіч, які, на просьбу гэбрэйскае дэлегацыі, рабіў захады перад нямецкім генэралам, каб адкласьці ліквідацыю гета, аргумэнтуючы ляяльнасьцяй гэбрэйскага жыхарства да ўладаў ды ўзорным выконваньнем ускладзеных на іх абавязкаў. А калі стараньні не далі пажаданых вынікаў, др. Станкевіч, даведаўшыся пра нямецкія пляны ліквідацыі гета, загадзя паведаміў аб гэтым гэбрэйскі актыў, а сам выехаў з Барысава.

Другі прыклад. На просьбу й паруку д-ра Станкевіча быў звольнены ад пакараньня ведамы беларускі пісьменьнік Міхась Клімковіч, старшыня Саюзу пісьменьнікаў БССР, якога Немцы захапілі ў сутычцы з бальшавіцкімі партызанамі на Барысаўшчыне. М. Клімковіч нейкі час працаваў для менскага Беларускага Тэатру, а з набліжэньнем Чырвонай арміі падаўся йзноў у партызаны. Па вайне М. Клімковіч напісаў тэкст гімну БССР.

Аб шмат якіх падобных прыкладах дапамогі часта згадваў Нябожчык.

У выніку далейшых ваенных падзеяў, улетку 1944 году, др. Ст. Станкевіч быў прымушаны назаўсёды пакінуць Беларусь і нястомна працаваў на эміграцыі для вызваленьня роднага краю.

Выехаўшы зь Беларусі, ён спачатку спыняецца ў Бэрліне, дзе ад палавіны 1944-га да пачатку 1945-га году рэдагуе газэту „Раніца”, а пасьля перабраўся ў Баварыю. Там і дачакаўся канца вайны.

Амэрыканская зона акупацыі Нямеччыны, у тым ліку й Баварыя,

**(заканчэньне на 3-яй бачыне)**

## АДЫЙШОЎ АД НАС ВЫДАТНЫ ЧАЛАВЕК

З доктарам Ст. Станкевічам давялося мне ўпяршыню сустрэцца й пазнаёміцца пасьля амаль пятнаццацігадовага супрацоўніцтва ў рэдагаванай ім „Бацькаўшчыне”. Створанае мною ў часе пісьмовага супрацоўніцтва й чытаньня ягоных навуковых прац ды публіцыстыкі ўяўленьне пра Стася (гэтак называлі яго бліжэйшыя яму людзі й супрацоўнікі) зусім пацьвердзілася: чалавек дамінуючай волі, перапоўнены вечным гарэньнем да дзейнасьці, чалавек вялікіх маштабаў. Фактычна, цяжка прыгадаць што-небудзь, што Стась пляноваў-бы на малы маштаб ці засяг. Дзіва няма, што вось ужо на працягу трох дзесяцігодзьдзяў ён быў мішэняй нумар адзін абстрэлу з боку антынароднае бальшавіцкае партыйнае ўлады на паняволенай бацькаўшчыне.

Калі чалавека можна разглядаць як суму рознае дзейнасьці ці недахопу яе, дык Стася трэба бачыць як нястомнага, прост-напраст зь нявычарпальнай энэргіяй тытана, які сьведама, аддана й плянава ды пасьлядоўна ўкладаў набытыя ім шчодрыя запасы ведаў і дасьветчаньня ў скарбніцу змаганьня за вызваленьне Беларусі й вольнай беларускай навукі, перадусім гісторыі й літаратуразнаўства. Калі-б, паводля ягонага інтэлекту і ўкладу ў нашае вызвольнае змаганьне ды беларускую вольную навуку, Стасю надаць вайсковую рангу, дык ён бязумоўна быў-бы маршалам. Яго ня можаш бачыць інакш, як толькі занятага плянаваньнем баёў, ацэньваньнем вынікаў разьведкі ў ворага, меркаваньнем пра вялікую стратэгію. Гэткімі катэгорыямі думаюць людзі дзяржаўнага маштабу.

Звычайна, каб узьвялічыць постаць чалавека жывога ці памерлага, або павялічыць нейкае здарэньне, перабольшваюцца перашкоды, што стаялі на дарозе іхнай. У выпадку дарагога нам Стася гэта лішняе. Бальшыня з нашых эміграцыйных працаўнікоў на культурна-асьветнай, рэлігійнай, навуковай, літаратурнай, палітычнай ці выдавецкай ніве дакладна ведае характар аграмадных цяжкасьцяў, якія трэба перaадольваць пры працы у гэтых галінах. Др. Станкевіч рэдка або мала на гэткія перашкоды наракаў. Як выдатны гісторык, літаратуравед, журналісты, — бяручы на ўвагу няспрыяльныя абставіны, а апошнім часам і ягоныя фізычныя недамаганьні, — ён быў проста нястомны, наскрозь вытрывалы й поўнасьцю, бязь ніякіх „але” адданы вялікай справе, імя якое воля Беларусі.

Нам, ягоным супрацоўнікам праз доўгія гады, а таксама і ўсім руплівым у справе нацыянальнага вызваленьня суродзічам на эміграцыі і ў паняволечай бацькаўшчыне, мала сказаць, што схіляем галаву ў пашане перад памяцьцю гэтага выдатнага чалавека. Сваім аграмадным укладам у вольную беларускую навуку ды справу вызваленьня Беларусі ён, бязумоўна, прыблізіў сам момант, калі беларускі народ нарэшце ўстане на поўны рост як гаспадар у сваім вольным і незалежным доме.

Доўгімі гадамі др. Станіслаў Станкевіч служыў прыкладам для нас, за яго малодшых, тых з другога пакаленьня, а ягоны ўклад у нашу народную духовую скарбніцу ўжо цімала падтрымаў нас і іншых, што часамі аставаліся ззаду ў вялікім паходзе змаганьня за волю Беларусі.

Гэтта жадаю выразіць мае й маёй сям'і спачуваньні аўдавелай сп-ні Зінаідзе Станкевіч і асірочанай дачцы Раісе. Няхай Усявышні трымае Вас у апецы Сваёй!

А Вам, Дарагі Стась, — шчасьлівага шляху ў Валадарства Нябеснае!

Да сустрэчы ў лепшым сьвеце!

**К. Акула**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# "РЭГАБІЛІТАЦЫЯ" ТЭМЫ БНР

**Ад Рэдакцыі:** У лістападзе-сьнежні сёлета спаўняюцца 60-ыя ўгодкі ад Слуцкага Паўстаньня (паводля Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі, „Слуцкага мецяжу"), узьнятага Беларускай Радай Случчыны ў 1920 годзе на абарону Беларускае Народнае Рэспублікі.

Адзначаючы гэтую дату, ніжэй зьмяшчаем артыкул аб тым як памяць сярод беларускае эміграцыі пра гэткія падзеі як Слуцкае Паўстаньне спрыяе працэсу ўзбагачэньня гістарыяграфіі савецкае Беларусі новымі фактамі й матар'яламі з палітычнае мінуўшчыны нашага народу.

Выдрукаваная ў ЦК кампартыі Беларусі ды аформленая ў сэрыі „Бібліятэчка газэты ‚Голас Радзімы' ", Беларусам за мяжой была разасланая нядаўна кніжка Івана Коўкеля й Мікалая Сташкевіча (першы — выкладчык Горадзенскага пэдагагічнага інстытуту, а другі — загадчык сэктару гісторыі КПСС у Інстытуце партыі пры ЦК КПБ) „Почему не состоялась БНР?"

Як выглядае з кароткага ўводу „Ад рэдакцыі", кніжка гэтая выдадзеная ў супрацьвагу дзейнасьці беларускае эміграцыі ў Амэрыцы, дзе кангрэсмэны „неадпаведна", быццам-бы, паінфармаваныя пра навейшую палітычную гісторыю Беларусі. Рэдакцыя кніжкі згадвае выступленьне ў Кангрэсе ЗША 5 красавіка 1978 году кангрэсмэна Джозэфа Адаба, які, „дагаварыўся да таго, што савецкая Беларусь — гэта, быццам-бы, ‚фікцыйная дзяржава', накінутая бальшавікамі нашаму народу ‚збройным шляхам' ".

Коўкель і Сташкевіч узяліся запярэчыць гэтаму. Хоць на ўступе да кніжкі цьвердзіцца таксама, што „БНР яшчэ не нарадзіўшыся, пакрылася пылам забыцьця", памяць пра БНР у Амэрыцы змусіла партыйных гісторыкаў тэму гэтую спад „пылу забыцьця" выцягнуць.

Дарэчы, гэта робіцца ўжо ня першы раз. У сэрыі „Бібліятэчка газэты ‚Голас Радзімы' " гэта прынамся трэйцяя ўжо гэткая кніжка: у 1974 годзе беларускім эмігрантам рассылалася Сташкевічава „Непазьбежнае банкруцтва"; у 1977 годзе — ягоная-ж кніжыца „Кастрычнік у Беларусі" (нат у двух варыянтах: беларускім і ангельскім).

Тэма БНР, як бачым, ня траціць папулярнасьці ў савецкай гістарыяграфіі. Бадай, наадварот.

Адным зь першых пачаў яе распрацоўваць Вадзім Круталевіч гадоў дваццаць таму. Пішучы пра станаўленьне беларускае савецкае дзяржаўнасьці, Круталевіч ня мог ня пісаць і пра БНР. Гэтая апошняя тэма ўводзілася ў савецкую гістарыяграфію ня гэтулькі пад уплывам наяўных архіўных матар'ялаў, колькі як рэакцыя на тое, што пісалася й казалася пра БНР на Захадзе.

У моц гэтае акалічнасьці дайшло цяпер да выданьня й кніжкі Коўкеля-Сташкевіча „Чаму не адбылася БНР?"

Тэза пра чужароднасьць савецкае ўлады на Беларусі, а таксама цьверджаньні пра русыфікацыю Беларусі, як выяўленьне гэтае чужароднасьці, выклікаюць рэакцыю з боку партыйнае гістарыяграфіі й прапаганды. У 1972 годзе, прыкладам, была выдадзеная — „у дапамогу лектару" — адмысловая брашура В. Круталевіча пад заг. „Фальсификация истории создания БССР — одно из направлений антисоветизма". У ёй, між іншага, аўтар зварачаў увагу лектараў, што „гістарычная тэматыка, гісторыя стварэньня БССР цірэдкая ў перадачах праславутае радыястанцыі ‚Свабода' ".

Зацікаўленасьць гэткая на Захадзе зразумелая: гісторыя й гістарыяграфія могуць быць вельмі паказальныя й павучальныя, пагатоў у кантэксьце савецкае практыкі, у якой гістарычная навука неразлучна зьвязаная зь ідэалягічнай устурбаванасьцяй партыі „на дадзеным этапе".

Вось-жа паказальна, што ў канцы 1950-х і праз усе 1960-я гады тэма Беларускае Народнае Рэспублікі ў кніжыцах сэрыі „Бібліятэчка газэты ‚Голас Радзімы' " закраналася толькі ў фэльетонах і памфлетах. Цяпер-жа тэма БНР узьведзеная ўжо ў вышэйшы ранг: чытачу падаюцца ўжо працы „навуковага" характару. Хоць элемэнт публіцыстыкі ў іх даволі выразны, усё-ж у іх ужо даюцца спасылкі на друкаваныя крыніцы рэвалюцыйнага часу, архіўныя матар'ялы, пастановы зьездаў, праграмы партыяў. У гэткім пляне напісалі сваю працу „Чаму не адбылася БНР?" і Коўкель ды Сташкевіч.

Ад памфлетнага, публіцыстычнага стылю ў іх засталося йшчэ толькі частае ўжываньне двукосься. Беручы ў двукосьсе некаторыя словы, аўтары паказваюць, што яны ўжываюць гэтыя словы ня ў іхным звычайным сэньсе, а ў вадмоўна-зьняважлівым. Гэтак, у дачыненьні да дзейнасьці Рады і ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918-1925 гадох яны ўжываюць заўсёды ў двукосьсі словы „мэмарандум", „нота", „умова", „пасол", „дэлегацыя", „зьезд", „беларускі ўрад". Двукосьсі паабапал гэтых словаў сьветчаць, фактычна, не пра ўдзельнікаў беларускага незалежніцкага руху й дзеячоў БНР, а пра Коўкеля й Сташкевіча, пра тое, што партыя намагаецца весьці змаганьне зь ідэяй Беларускае Народнае Рэспублікі — ідэяй нацыянальнае незалежнасьці й свабоды — ня толькі пры дапамозе дакумэнтальнага матар'ялу, але й пры дапамозе абніжальнае інтэрпрэтацыі яго мэтадам браньня ў двукосьсе адпаведныя словы.

Важная аднак ня гэтулькі інтэрпрэтацыя, колькі самыя факты. Нарэшце чытач пачынае даведвацца пра канкрэтныя рэчы зь гісторыі станаўленьня беларускае дзяржаўнасьці (у дадатак да таго, што ведама было дасюль пра дзейнасьць бальшавікоў): пра беларускія нацыянальныя партыі, іхных дзеячоў, іхныя выданьні („пад кантролем Рады БНР, — пішуць Коўкель і Сташкевіч, — выходзіла чатырнаццаць газэтаў", б. 18), пастановы зьездаў, ідэйную ськіраванасьць, тактыку палітычнага й збройнага змаганьня. Палітычная гісторыя Беларусі, такім парадкам, набывае куды багацейшае танальнасьці, як толькі чорна-белыя колеры, якімі карысталася партыйная гістарыяграфія раней.

Далейшай фазай у гэтай своеасаблівай рэгабілітацыі беларускае палітычнае мінуўшчыны павінна было-б стацца пісаньне кніжак ня толькі для беларускіх эмігрантаў, а й для ўсіх, хто цікавіцца мінуўшчынай Беларусі ды перш-наперш для Беларусаў удома. Можа калі-небудзь дойдзе й да выданьня дакумэнтальнага зборніка, у якім будуць матар'ялы ня толькі пра бальшавіцкія арганізацыі, а й пра палітычныя арганізацыі наагул тае цікавае пары, што дасюль, як бачым, ня страціла свае войстрае актуальнасьці.

Азнаёміўшыся зь цікавым і павучальным выданьнем „Чаму не адбылася БНР?", трэба зрабіць выснову, што тэма гэтая „адбываецца" цяпер у вялікай меры дзякуючы таму, што пра БНР памятае эміграцыя ды гаворыцца пра яе ў Вашынгтоне й іншых сталіцах Заходніх дзяржаваў. А гэта змушуе й Менск гаварыць пра БНР — і не фэльетонамі ў „Голасе Радзімы", а прынамся навукападобнымі выданьнямі.

**Я. Запруднік**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАНЬНЕ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ НА СТАГОДЗЬДЗЕ ЯНКІ КУПАЛЫ!**

# З 14-ай СУСТРЭЧЫ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ



Падняцьце сьцягу



Архіепіскап Мікалай у суслужэньні з духавенствам БАПЦ




Прамаўляе Сэнатар Мэцэнбаўм

## ІДЭЯ АЎТАНОМІІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ

У сакрэтным рапарце Савету да справаў Праваслаўнае Царквы, напісаным для сяброў ЦК КПСС (рапарт апублікаваны ў парыскім часапісе „Вестник Русского Христианского Движеия", Нр. 130, 1979, гл. б. 314) ёсьць гэткая заява:

„Як мы пісалі ўжо ў папярэдніх інфармацыйных справаздачах, прыблізна раз на год ад імя г. зв. ‚сыноду праваслаўна-хрысьціянскай царквы на Русі' на адрыс кіраўнічых архіярэяў Расейскае Праваслаўнае Царквы няведамыя асобы рассылаюць звароты, пасланьні, у якіх аўтэры выкрыўляюць рэлігійныя абставіны ў краіне, фальсыфікуюць стан праваслаўнае царквы ў СССР, прапануюць свае захады ажыўленьня царквы, актывізацыі рэлігійнага жыцьця.

„Гэтак, прыкладам, у чародным пасланьні ў сьнежні 1974 году няведамыя аўтары пісалі:

„ ‚Мы неўзабаве абвесьцім аб нарачэньні патрыярха ўсяе Русі, аб нарачэньні экзарха Украіны, **аб прызнаньні Беларускай царкве аўтаноміі ды назначэньні ейнага экзарха** (падчыркнена намі; цяпер Беларусь, у вадрознасьць ад Украіны, ня мае ані статусу экзархату ані экзарха — Я. З.). . . . Шукаць нас дарма, мы жывём і дзеім наўзор старажытнае царквы, з улікам сучасных абставінаў.

„ ‚Яшчэ раз мы прапануем Вам (патрыярху Пімену й сыноду РПЦ) руку супрацоўніцтва на дабро царквы, але ўжо пры няўхільным выкананьні нашае праграмы дзеяньня'. "

У рапарце ўрадавага Савету да справаў Расейскае Праваслаўнае Царквы не сказана, што гэта за ананімныя аўтары пасланьня, якія, як бачым, улучылі ў сваю праграму аўтаномію й экзархат для Беларускае царквы.

**Я. З.**

**Зважай № 4 (20)** часапіс Беларускіх Вэтэранаў) за лістапад 1980 г. зьмяшчае: артыкул пад заг. „1000" — пра тысячагодзьдзе беларускае гісторыі; „Беларускі гістарычна-вайсковы каляндар" (падзеі розных гадоў у кастрычніку-сьнежні) В. Сенкевіча; арт. В. С. пад заг. „Крывавая ноч" (пра падзеі ў Вільні ў ліпені 1944 году); хроніку; зацемкі; сьпіс ахвярадаўцаў.

# МЭМАРАНДУМ ПРА ДЭКАЛЯНІЗАЦЫЮ СССР

На вокладцы гэтага дакумэнту, выдадзенага друкам (22 бб.), напісана: „Мэмарандум у справе дэкалянізацыі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў, перададзены членам 35-ае Генэральнае Асамблеі Задзіночаных Нацыяў ад Камітэту, у які ўваходзяць сусьветныя Рады Беларусаў, Эстонцаў, Латышоў, Літоўцаў, Туркестанцаў і Украінцаў. Нью Ёрк — Таронта, кастрычнік 1980 году". Мэмарандум перасланы ўсім дэлегацыям бягучае 35-ае Генэральнае Асамблеі АЗН.

Нагадайма, што падобны мэмарандум — на 148 бачынаў друку — быў перададзены ўсім дэлегацыям АЗН у 1978 годзе.

Фармальную аснову для гэткага дэмаршу — пра што ў вабодвых мэмарандумах сказана — даюць прынятыя Задзіночанымі Нацыямі канвэнцыі ды пастановы, у тым ліку й рапарт місіі АЗН, што ўлетку 1974 году наведала гішпанскую Сагару (рапарт місіі быў пацьверджаны Адмысловым Камітэтам АЗН 24-ох да справаў дэкалянізацыі). У рапарце тым кажацца: „Дэкалянізацыя якое-небудзь тэрыторыі павінна ўлічваць імкненьні жыхароў гэтае тэрыторыі, у тым ліку й тых, што цяпер жывуць паза ейнымі межамі як палітычныя выгнанцы або ўцекачы. Павінны быць ахаваныя іхныя сучасныя ды будучыя інтарэсы".

На гэткай праўнай аснове Камітэт сусьветных радаў Беларусаў, Эстонцаў, Латышоў, Літоўцаў, Туркестанцаў ды Украінцаў і падаў мэмарандум аб дэкалянізацыі Савецкага Саюзу, гэтае апошняе ў сучасным сьвеце каляніяльнае імпэрыі.

У мэмарандуме сказана, што ў 1917-1922 гадох былі здушаныя імкненьні нерасейскіх народаў да незалежнасьці; што ў 1940 годзе былі інкарпараваныя ў СССР, па кароткім пэрыядзе незалежнасьці, тры прыбалтыцкія нацыі; што цяперашнія савецкія рэспублікі сваю сувэрэннасьць маюць толькі на паперы.

Заява ў мэмарандуме пра імпэрыялістычна-каляніяльную палітыку Масквы ў дачыненьні да нерасейскіх народаў ілюструецца спасылкамі на гэткія дакумэнты, як ліст 17-ёх латыскіх камуністых да кампартыяў заходня-эўрапейскіх краёў з пратэстам супраць русыфікацыі, „Хроніка Літоўскае Каталіцкае Царквы", нарыс беларускага філёляга „Ліст да расейскага сябры" ды іншыя матар'ялы. Апісваецца таксама, паасобна ў кажнай з рэспублікаў, перасьлед іншадумцаў, у выпадку Беларусі названыя прозьвішчы Міхала Кукабакі, Аляксандра Круцька, Аўгена Бузіньнікава, Сьвятланы Місюк.

Канчаецца мэмарандум зваротам да старшыні Генэральнае Асамблеі АЗН з просьбаю: „Мы ветліва просім ужыцьцёўленьня ў Савецкім Саюзе ўсіх працэдураў, што былі гэтак эфэктыўна ўжытыя ў дачыненьні да афрыканскіх, цэнтральна-амэрыканскіх ды паўдзённа-азіяцкіх каляніяльных тэрыторыяў, каб гэткім парадкам дасягнуць мірным спосабам свабоды й незалежнасьці для ўсіх нерасейскіх нацыяў на іхных тэрыторыях ў Эўропе й Азіі".

У чацьвер 23 кастрычніка 1980 году, з нагоды пераданьня мэмарандуму ў АЗН, у Украінскім Інстытуце Амэрыкі ў Мангатэне, адбылася канфэрэнцыя з дакладамі праф. Рычарда Пайпса, праф. Анджэя Эрэнкройца й былога дырэктара Інфармацыйнага Агенцтва ЗША Фрэнка Шэксьпіра на тэмы нацыяналізму ў сучасным сьвеце, расейскага царскага й савецкага экспансіянізму ды сучаснага палітычнага стану ў краёх Усходняе Эўропы й на эміграцыі.

Актыўны ўдзел у канфэрэнцыі ўзялі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў і друку: сп. сп. А. Шукелайць, В. Кіпель, Я. Запруднік, Р. Станкевіч, К. Мярляк, Р. Гарошка.

**А. Загорны**

# ПАСЕДЖАНЬНЕ РЭДКАЛЕГІІ „БЕЛАРУСА"

У сыботу 22-га лістапада 1980 г. адбылося першае па сьмерці Галоўнага Рэдактара д-ра Станіслава Станкевіча паседжаньне рэдкалегіі газэты „Беларус" супольна з галоўнай управаю Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. На парадку дня быў адзіны пункт: будучыня газэты „Беларус".

Старшыня паседжаньня, ён-жа старшыня БАЗА, сп. Антон Шукелайць папрасіў прысутных ушанаваць часінаю цішыні памяць памерлага Галоўнага Рэдактара.

Усе ўдзельнікі нарады выказалі сваю наважанасьць працаваць самаахвярна й надалей, каб запэўніць далейшы выхад газэты. Усе прызналі вялізарны ўклад тэхнічнае й рэдакцыйнае працы, якую гадамі рабіў былы Галоўны Рэдактар, ды ўсьведамілі сабе, наколькі больш працы й адказнасьці ўскладаецца цяпер на плечы кажнага сябры рэдкалегіі. Было выказанае спадзяваньне, што калі сталыя супрацоўнікі й дапішчыкі газэты „Беларус" з-паза Нью Ёрку будуць рэгулярна прысылаць у газэту свае артыкулы й карэспандэнцыі ды калі грамадзтва будзе падтрымваць газэту далей грашова, дык пэрыядычны выхад газэты й дасюлешняя колькасьць балонак нумару будуць забясьпечаныя.

Ідэйна-палітычны характар газэты застаецца той самы. Уся рэшта будзе залежыць ад Вас, дарагія Чытачы, Ахвярадаўцы, Падпішчыкі й Супрацоўнікі „Беларуса".

## ЗЬ ІМІ ГАДАВАЎСЯ СЬВ. ПАМ. СТАНІСЛАЎ



**Справа налева сядзяць: сястра Стэфка, сястра Ганна, стаяць муж Стэфкі, сястра Ганэрка й брат Юзюк. (Фатаграфія каля 15-гадовае даўнасьці)**

## ДР. СТАНІСЛАЎ СТАНКЕВІЧ

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

сталася прыпынкам тысячаў беларускіх эмігрантаў і тэрэнам бурнае шматбаковае дзейнасьці. Др. Ст. Станкевіч супрацоўнічае з Прэзыдэнтам Міколам Абрамчыкам у справе аднаўленьня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, бярэ ўдзел у працы Беларускага Нацыянальнага Цэнтру й Беларускага Нацыянальнага Камітэту — цэнтральнай рэпрэзэнтацыі беларускае эміграцыі ў Нямеччыне, рэдагуе часапіс „Рух", ад 1948-га да выезду ў Амэрыку ў 1962 годзе рэдагуе газэту „Бацькаўшчына". Быў ён арганізатарам філіі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нямеччыне, рэдактарам тых нумароў органу БІНіМ „Запісы", якія выходзілі ў Нямеччыне. Працаваў таксама ад 1946 году настаўнікам Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгензбурзе, а пасьля ў Міхэльсдорфе, выкладаючы там беларускую літаратуру, а, скончыўшы настаўніцкі курс ангельскае мовы пры Саюзе Цэркваў у Ульме, выкладае пачаткі ангельскае мовы для беларускіх жыхароў перасяленскага лягеру ў Розэнгайме.

У заснаваным у Мюнхэне Інстытуце вывучэньня СССР выконваў функцыі навуковага сакратара, віцэ-старшыні й старшыні Навуковай Рады Інстытуту, рэдактара „Беларускага Зборніка" паангельску й пабеларуску ды беларусаведных манаграфіяў Інстытуту.

У 1962 годзе др. Ст. Станкевіч пераехаў да сям'і ў ЗША й пасяліўся настала ў Нью Ёрку, увайшоў адразу-ж у працу беларускае грамады. Улетку 1963 году быў абраны за старшыню галоўнае управы БАЗА і ў канцы гэнага году пераняў рэдактарства газэты „Беларус", якой запэўніў сваёй аддадай і бязьінтэрэсоўнай працай незалежную матар'яльную базу ды рэгулярны выхад.

Ад часу пераезду ў Амэрыку й блізу да мамэнту сьмерці Нябожчык быў сталым супрацоўнікам Беларускае сэкцыі радыё „Свабода", аўтарам перадачаў на тэмы беларускае літаратуры й культуры, у выніку чаго стаўся аб'ектам бязупынных атакаў на яго з боку партыйнага савецкага друку й самога ЦК кампартыі Беларусі (гл. Ст. Станкевіч. Мой адказ ЦК КПБ, „Беларус" № 137, верасень 1968 г.).

У гэтым часе др. Ст. Станкевіч напісаў таксама дзьве літаратуразнаўчыя працы: „Беларуская падсавецкая літаратура першае палавіны 1960-ых гадоў", што выйшла асобнай кнігай у 1967 годзе, ды „Янка Купала. На 100-я ўгодкі ад нараджэньня", што выйдзе з друку ў 1981 годзе.

Усю гэтую валатоўскую працу др. Станіслаў Станкевіч здолеў зрабіць ня толькі дзякуючы сваім асабістым якасьцям і здольнасьцям, але й дзякуючы тэй дбайлівай апецы й спрыяльнай атмасфэры, якую забясьпечылі яму жонка Зінаіда, вядамая беларуская дзяячка, і дачка Раіса, якая сталася годнай прадаўжальніцай сямейнае традыцыі ў працы на грамадзкай і журналістычнай ніве.

У васобе сьветлай памяці д-ра Станіслава Станкевіча адыйшоў у вечнасьць беларускі дзеяч шырокіх зацікаўленьняў, нязвычайнае працавітасьці, які жыў працай для дабра Беларускага Народу, ды якога нялёгка будзе замяніць у дзейнасьці беларускае эміграцыі.

**Антон Шукелайць**

## КВЕТКА НА МАГІЛУ...

Прыгадваецца адзін халодны дзень у лютым 1974 г., калі я наважыўся наведаць др. Ст. Станкевіча, каб асабіста ўручыць яму мой артыкул „Культ нявол", над якім я доўга працаваў. І ўсё-ж я ня зусім быў пэўны, што рэдактар яго зьмесьціць — горкае дазнаньне жыцьця ўжо падкапала маю веру ў людзей...

На шчасьце, мае сумлевы аказаліся беспадстаўнымі: як і абяцаў, Стась зьмясьціў усё бяз зьменаў у сакавіковым нумары (203-ім) „Беларуса". Лішне казаць — я быў захоплены ды ня толькі артыкулам, але й самым Стасем: сваім пастулкам ён няхібна пацьвердзіў, што сам належыць да тае адборнае групкі вольных Беларусаў на чужыне, якія запраўды не прызнаюць культу нявол і ніколі, ні словам ні чынам, яму не падпарадкоўваюцца. Гэта наша запраўдная, нацыянальная эліта — эліта духу. Гэты важны факт вызначаў і характар газэты „Беларус", як вольнага форуму, на якім разглядаліся ўсе справы Беларусаў, бязь ніякіх абмежаваньняў накінутых ворагам.

У кантэксьце сяньняшніх грозных падзеяў, у якіх культ нявол адыгрывае вырашальную ролю, адыход у вечнасьць др. Станіслава Станкевіча — балючая страта беларускай эміграцыі ўсіх кірункаў, страта нашага Народу. Лік нашай эліты зьменшыўся на аднаго, які працаваў за трох, а цярпеў за тысячы...

Кладу на гэту сьвежую магілу кветку рэдкую — што не завяне ніколі. Вечная памяць!

**Пётра Маньkоўскі**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"**

---

**СЬВ. ПАМ.**

**СТАНІСЛАЎ СТАНКЕВІЧ**

**доктар літаратуры, выдатны рэдактар-журналіст і літаратуравед, былы старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нямеччыне й рэдактар часапісу Інстытуту „ЗАПІСЫ", народжаны 23. II. 1907 г. ў Арлянятах, Ашмяншчына, памёр 6. XI. 1980 г. ў Нью Ёрку, пра што з жалем падае й шчырыя спачуваньні Сям'і Нябожчыка ў ейным вялікім горы выказвае**

**УПРАВА**
**Беларускага Інстытуту**
**Навукі й Мастацтва**

---

**СЬВ. ПАМ.**

**ЛЕЎ АКІНШЭВІЧ**

**гісторык права й гісторык, кандыдат юрыдычных навукаў, былы прафэсар Кіеўскага Унівэрсытэту, сябра-заснаўнік Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, народжаны 21. I. 1898 г., памёр 6. XI. 1980 г. ў Вашынгтоне, пра што з жалем падае й шчырыя спачуваньні Сям'і Памерлага ў ейным вялікім горы выказвае**

**УПРАВА**
**Беларускага Інстытуту**
**Навукі й Мастацтва**

---

**СЬВ. ПАМ.**

**ФЛЯРЫЯН КАРАНЕЎСКІ**

**Нарадзіўся 13 лістапада 1895 г. у Коцяўшчыне каля Вішнева на Беларусі. Памёр 24 верасьня 1980 г. у Нью Джэрзі. Пахаваны 27 верасьня 1980 г. на Беларускім магільніку ў Іст Брансўіку, Нью Джэрзі.**

**Шчырыя й глыбокія спачуваньні жонцы Стэфаніі, сястры Яніне Маркевіч із сямёй, сыну Ўладзімеру із сям'ёй, сыну Міхасю із сям'ёй і швагру Ўладзімеру Сьліўку.**

**Управа Аддзелу БАЗА**
**ў Нью Джэрзі**

---

## ПАДЗЯКА
## ЗА ЎШАНАВАНЬНЕ СЬВ. ПАМЯЦІ МУЖА Й БАЦЬКІ

Усім асобам, што далучыліся да нас у часе Паніхіды ды пахаваньня Мужа й Бацькі нашага, і тым, што не змаглі асабіста быць прысутнымі, але ўшанавалі памяць Ягоную вянкамі жывых кветак ці, замест кветак на магілу, склалі ахвяры на Выдавецкі Фонд кнігі „Янка Купала. На сотыя ўгодкі нараджэньня", якую Нябожчык чытаў дні да сьмерці законччыў, ці склалі ахвяры на газэту „Беларус", як і тым сотням людзей, што выказалі нам спачуваньні асабіста або тэлеграфічна або праз адмысловыя карткі — усім ім выказваем гэтай дарогай нашую бязьмежную ўдзячнасьць.

Асабліва сардэчна дзякуем прадстаўніком духавенства, якія так высакародна адгукнуліся на сьмерць Сьв. Пам. Стася Станкевіча: адслужылі Паніхіду 7-га лістапада ў пахавальным доме (Айцец Архімандрыт Язэп Строк, настаяцель царквы ў Рычманд Гіл у Нью Ёрку) і другую Паніхіду ў тым-жа пахавальным доме 8-га лістапада (Архімандрыт Я. Строк у суслужэньні з Архімандрытам Уладзімерам Тарасэвічам, які адмыслова прыехаў з Чыкага, дзе ён — настаяцель беларускае каталіцкае царквы Хрыста Спаса). Айцец Архімандрыт Уладзімер адслужыў таксама павахавальную багаслужбу на могілках ў Іст Брансўіку.

Дзякуем Высакадастойнаму Архіепіскапу Мікалаю з Канады за ўдзел у пахаваньні й прачытаньне заупакойнае малітвы, а таксама Айцом Расьціславу Войтанку й Аляксандру Яноўскаму за ўдзел у пахоўнах; харыстым, што пад кіраўніцтвам сп. Барыса Данілюка пялі на Паніхідзе ў Нью Ёрку, і хору, што склаўся спантанічна з прысутных на Беларускім Могільніку.

Мы радыя былі бачыць сьвятароў розных веравызнаньняў і розных юрысдыкцыяў (рыма - каталіцкі сьвятар із сьвятарамі БАПЦарквы ды праваслаўным сьвятаром грэцкае юрысдыкцыі) у супольным акце пахаваньня.

За дабрыню, сардэчнасьць і спагаду ўсім прысутным, што ўшанавалі памяць Нябожчыка Станіслава, на ўсё жыцьцё застанёмся ўдзячнымі.

Масава прыйшлі людзі на могілкі, каб скласьці апошнюю пашану, каб разьвітацца. Вэтэраны схілілі ўніз перад труною бел-чырвона-белыя сьцягі. Гэткі-ж нацыянальны сьцяг пакрыў труну.

Быў ясны вясеньні дзень... Труна апусьцілася ўніз...

Засталася памяць пра Чалавека-Працаўніка й прызнаньне ягонае нястомнасьці. Выказалася яно, тое прызнаньне, у злажэньні вянкоў з жывых кветак або, замест іх, у ахвярах на кнігу прысьвечаную Янку Купалу, і на газэту „Беларус".

Сотні картак і лістоў із спачуваньнямі мы атрымалі і ўсё йшчэ атрымоўваем да сяньня. Немагчыма тут пераліччыць імёны ўсіх, кранальныя словы спагады, шчырыя, сардэчныя словы, якія сталіся гэтак нам патрэбным падтрыманьнем у тыя дні й будуць у будучыні.

Некалькі асобаў, падыходзячы да нас із спачувальным словам, дадавалі: „Тое, што мы гадамі імкнуліся зрабіць, дасягнуць згоды паміж Беларусамі розных групаў, і ня здолелі, Ён ужо мёртвы гэтага дасягнуў". Тую-ж самую думку выказвалі й іншыя: „Вось мы й злучыліся! Гляньце на гэтых людзей, на іхныя твары, на сьлёзы ў іхных вачох". „Мы ўсе дзелім Вашу жалобу, мы так шкадуем, што раней ня здолелі дайсьці да згоды". „Як добра сяньня, што мы ўсе — як адна сям'я"...

Шмат дабра й чуласьці захоўваюць у сваіх сэрцах Беларусы, і толькі пры гэткіх рэдкіх нагодах выкрываецца іхнае пачуцьцё навонкі. За шматгадовую службу Беларускай Праўдзе, якой прысьвяціў і аддаў сваё жыцьцё Рэдактар, вырвалася тое перахоўванае прызнаньне навонкі, і людзі працягнулі рукі шчыра да сваіх суродзічаў Беларусаў і да нас, што засталіся ў жалобе, як да родных сваіх, блізкіх людзей. Шчыра дзякуем Вам за гэта.

Мы ўважаем за адпаведнае падаць тут таксама пра вывы пашаны да Сьв. Пам. Станіслава.

**Вянкі на сьвежую магілу склалі:**

Марыя, Вячаслаў і Джоэн, Юрка, Біл і Фэліцыя Станкевічы;
Франьціш, Вера й Антон Бартулі;
Сям'я Орса й Рамано;
Рэдакцыйная Калегія „Беларуса";
Беларуская Асацыяцыя Штату Іліной (Чыкага);
Арганізацыя Беларуска - Амэрыканскае Моладзі;
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (аддзел Нью Брансўік);
Прыяцелі Раісы Станкевіч — ад Камітэту Тыдня Славянскае Культуры;
Сям'я.

**Замест кветак на магілу, ахвяры на кнігу пра Я. Купалу:**

Др. П. Гайдзель — 50 дал., сям'я Андрусышынаў і Я. Кахаоўская — 50 дал., супрацоўнікі Р. Станкевіч — 31 дал., М. і В. Махнач — 25 дал., А. Шукелайць — 25 дал., І. і Я. Чарнэцкія — 20 дал. Разам — 201.00 даляр.

**Замест кветак, ахвяры на газ. „Беларус":**

Др. Ул. Набагез — 100 дал., Ул. і Л. Брылеўскія — 100 дал., І. Шчыры — 30 дал., В. і Н. Стома — 30 дал., Беларуска-Амэрыканскае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўлендзе — 30 дал., Бабка Вольга, К. Каляда, Ю., І. і Н. Сьмірновы — 30 дал., О. і М. Тулейка — 25 дал., М. і Н. Рагуля — 25 дал., Б. Данілювіч — 20 дал., сям'я Стагановіч — 20 дал., Х. Шыбут — 10 дал. Разам — 420.00 дал.

**Груповыя спачуваньні (тэлеграмы й лісты):**

Працаўнікі радыё „Свабода": Ул. Цьвірка, З. Каспар, Л. Міняйла, М. Сяднёў, Ю. Сяньkоўскі, Л. і П. Урбан у Мюнхэне, Я. Запруднік і Ант. Адамовіч у Нью Ёрку.

Царкоўная Управа Беларускае Праваслаўнае Царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага. Сакратар — Пётра Нягода.

Беларуская Нацыянальная Рада ў Чыкага.

Беларусы ў Аўстраліі. Подпіс: др. Я. Малецкі, старшыня ФРВАА, сакратар — М. Лужынскі.

Сябры Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Лёндан.

Управа аддзелу ЗБВБ у Манчэстары. За ўправу — М. Яськевіч.

**Пэрсанальныя тэлеграмы й тэлефоны:**

М. Скабей (Аўстралія), М. Нікан (Аўстралія), А. Калодка (Аўстралія), Л. Яцкевіч (Аўстралія), Біскуп Ч. Сіповіч (Лёндан), Архімандрыт А. Надсон (Лёндан), Л. і Б. Рагулі (Канада), Л. Бяленіс (Чыкага), І. Пануцэвіч (Чыкага), К. Акула (Таронта), Ю. Найдзюк (Лёс Анджэлес).

Усім сардэчнае дзякуй!

**Зінаіда й Раіса Станкевіч**

І яшчэ адно асьветчаньне да агульнага ведама, якое ня было ніколі сказанае ў друку: на працягу ўсяго часу — тры дзесяткі гадоў з гакам — за працу ў рэдагаваньні газэтаў „Бацькаўшчына" й „Беларус" ды цэлы рад іншых тэхнічных нагрузак пры выдаваньні названых газэтаў ніякае матар'яльнае платы, ніякіх іншых узнагародаў, прынагодных датацыяў ці падарункаў Сьв. Пам. Станіслаў Станкевіч не даставаў.

Тое-ж датычыць і да ўсіх бяз выняткў супрацоўнікаў у газэце „Беларус", пачынаючы ад дабраахвотнікаў, што прывозяць і развозяць газэту з друкарні да калпартэраў у Нью Ёрку, і іншых па ўсім сьвеце, у тым ліку дапішчыкаў, карэспандэнтаў, дабраахвотнікаў у тэхнічнай працы, і канчаючы на Рэдакцыйнай Калегіі.

Нябожчык Рэдактар сьцямэнтаваў добрую, ахвярную групу беларускіх патрыётаў, што ішлі тым самым як і ён шляхам бескарысьлівае службы для Бацькаўшчыны. Таму газэта й выходзіць рэгулярна ды спраўна ў згодзе, беларускай талакой.

Гэтая група патрыётаў засталася. Я моцна веру, што застанецца яна вернай старой традыцыі, дый падтрыманьне ўжо зарысоўваецца спаміж маладых кадраў. Бо-ж газэта „Беларус" — газэта ўсіх Беларусаў у Вольным Сьвеце — мае жыцьць вечна, як сымбаль і факт няўміручасьці беларускае нацыянальна-вызвольнае справы.

**Зінаіда Станкевіч**

---

**Мэмарандум удзельнікам Мадрыдзкае канфэрэнцыі** (чатыры бачынкі друку) перададзены ад Эўрапейскае Сувязное Групы ў Лёндане. У склад ЭСГ уваходзяць 14 эміграцыйных групаў: Эстонцы, Латышы, Літоўцы, Беларусы, Палякі, Расейцы, Украінцы, Чэхаславакі, Румынцы, Вугорцы, Баўгарцы, Альбанцы, Грузіны й Югаславы. Ад Беларусаў мэмарандум падпісаў сп. П. Асіповіч.

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ

## НАРОДНЫМ ПІСЬМЕНЬНІКАМ БССР

У газэце „Літаратура і Мастацтва" за 26 верасьня сёлета зьмешчаны „Указ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР", у якім сказана: „За вялікія заслугі ў разьвіцьці беларускай літаратуры прысвоіць Быкаву Васілю Уладзіміравічу ганаровае званьне народнага пісьменьніка Беларускай ССР".

Узнагарода гэтая — зусім неспадзяваная, вельмі характэрная й навет несамавітая з увагі на ідэйную скіраванасьць творчасьці Васіля Быкава й ролю, якую ён адыграе ў сучаснай беларускай літаратуры. У сувязі з гэтым неабходна хоць каротка засярэдзіцца на гэтым факце на фоне ўсіх іншых падобных узнагародаў, якія былі прызнаваныя іншым пісьменьнікам за ўвесь час перад узнагародай Васіля Быкава.

Яшчэ ў сярэдзіне 1920-ых гадоў першыя падобныя ўзнагароды былі прысвоеныя Янку Купалу й Якубу Коласу. У „Летапісе жыцьця і творчасьці" Янкі Купалы ў томе 7-ым ягонага „Збору твораў у сямі тамах", што выйшаў у выдавецтве „Навука і тэхніка" ў 1976 годзе, на бачыне 602-ой пад датай 13 чырвеня 1925 году чытаем: „Я. Купалу прысвоена званьне народнага паэта Беларусі". Падчыркваем словы „народнага паэта Беларусі", бо Янка Купала ўзапраўды быў узнагароджаны, як „народны паэта Беларусі", а не як „народны паэта БССР". Янку Купалу была прысвоеная ганаровая годнасьць народнага паэты Беларусі за ягоныя заслугі ня толькі ў галіне літаратурна-мастацкай, але й ідэйнай, у тым ліку нацыянальна-патрыятычнай. Ня выпадкова-ж у часе сталінскіх пагромаў беларускай нацыянальнай культуры, усе ейныя творцы і носьбіты былі зьліквідаваныя, як нацыянальныя дэмакраты за іхны беларускі нацыяналізм.

Затое ў пазьнейшым пэрыядзе пасьля сталіншчыны падобныя ўзнагароды фармулююцца ўжо не як „народны паэта Беларусі", а як „народны паэта БССР" або „народны пісьменьнік БССР", як у выпадку Васіля Быкава. Гэтак як сяньня Васіль Быкаў, перад ім былі ўзнагароджаныя як „народныя паэты БССР" Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк і Пімен Панчанка, а як „народныя пісьменьнікі БССР" — Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Іван Мележ і Іван Шамякін.

Спаміж іх усіх Васіль Быкаў прынцыпова адрозны. Розьніцца ён ня толькі тым, што адзіны спаміж іх беспартыйны, але й тым, што ён характэрны сваім пасьлядоўным змаганьнем за свабоду творчасьці. На 5-ым зьезьдзе Саюзу пісьменьнікаў Беларусі 13 траўня 1966 году ён выступіў з даўгой прамовай, якая ў Савецкім Саюзе ня была надрукаваная. Але ейны поўны тэкст трапіў на Захад і быў надрукаваны ў № 61 за 1966 год расейскага эміграцыйнага часапісу „Грани", што выдаваўся ў Франкфурце над Майнам у Заходняй Нямеччыне. Адтуль у перакладзе на беларускую мову поўны тэкст гэтае прамовы перадрукавала ў нумарох 207 і 208 за ліпень і жнівень 1974 году газэта „Беларус". Згаданая прамова Васіля Быкава — гэта адзін з канкрэтных актаў, трэба думаць, ня першы, адкрытага й пасьлядоўнага змаганьня за свабоду творчасьці ў БССР.

У заканчэньні свае прамовы Васіль Быкаў дзякаваў тым беларускім літаратарам, якія перад пісьменьніцкім зьездам праявілі сваю, як ён сказаў, „грамадзянскую мужнасьць" у дачыненьні да яго. Добра паінфармаваная рэдакцыя „Граняў" высьвяляе, што гэта Васіль Быкаў дзякаваў за калектыўны ліст 65-ёх беларускіх пісьменьнікаў у ЦК Камуністычнай Партыі Беларусі, скіраваны туды ў сувязі з рэдакцыйным артыкулам у газэце „Советская Белоруссия", што нязвычайна востра атакаваў Васіля Быкава. А гэта мае ўжо вымову асаблівую: аж 65-ёх беларускіх пісьменьнікаў не пабаяліся адкрыта выступіць у вабароне Васіля Быкава перад партыйным зьвінавачаньнем яго.

Каб уявіць сабе ўвесь патас выступленьня Васіля Быкава з трыбуны пісьменьніцкага зьезду й ягоную непахіснасьць у вабароне роднай літаратуры перад партыйным ейным скоўваньнем і накіроўваньнем, даволі прывесьці дзьве наступныя мясьціны з ягонае прамовы. Першае, дзе ён зьвінавачвае ўсіх тых, „хто ўсё яшчэ ня страціў ахвоты ў падкаваных ботах пагуляць на ніве шматпакутнай беларускай літаратуры". І другое, дзе ён кажа: „Магчыма сказанае мною ня ўсім спадабаецца. Быць можа, навет знойдуцца такія, хто пастараецца суаднесьці мае словы зь некаторымі артыкуламі крымінальнага Кодэксу. Але перад гэтым я хацеў-бы папярэдзіць: недастойная гэта справа — шукаць ведзьмаў там, дзе іх няма. Ня выдумляйце ветракоў, каб зь імі змагацца".

Тыя 65-ёх беларускіх пісьменьнікаў, што не пабаяліся выступіць адкрыта ў вабароне Васіля Быкава, тым самым выступілі як сваіго роду „дысыдэнты-іншадумцы" ў тагачаснай беларускай літаратуры, а ў гэтым сваім выступленьні ў васобе Васіля Быкава вызналі сваіго ідэйнага выразьніка.



Аб'ектамі войстрае крытыкі, як ведама, сталіся аповесьці Васіля Быкава „Мёртвым не баліць", „Праклятая вышыня" й „Круглянскі мост". Вось-жа тагачасны старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Максім Танк на 6-ым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі ў 1971 годзе, побач з пацьверджаньнем некаторых партыйных закідаў, стаўленых аповесьці „Мёртвым не баліць", дзьве апошнія аповесьці — „Праклятая вышыня" й „Круглянскі мост" — узяў пад абарону. У ягоным дакладзе было сказана: „прызнаючы правільнасьць некаторых крытычных закідаў у адрас Быкава, мы разам з тым ня можам не адзначыць, што ў тэй крытыцы, якая ішла ў адрас пісьменьніка, былі й такія абвінавачаньні, зь якімі прафэсіянальным літаратарам цяжка згадзіцца" („Літаратура і Мастацтва", № 12, 30 сакавіка 1971). Апрача прыведзеных вышэй, ёсьць нямала й іншых прыкладаў, калі беларускія літаратары выступалі ў вабароне беларускага іншадумца Васіля Быкава.

Сам Васіль Быкаў — у мінулым салдат, франтавік ад самага пачатку й да канца вайны, а таму ягоныя ваенныя аповесьці ня толькі плод творчай фантазіі, але й прадукт асабістых назіраньняў і перажываньняў. У сваіх ваенных аповесьцях ён вызваліўся поўнасьцяй із сацрэалістычнага шаблёну, ад ідэялізацыі герoікі вайны, ад штучнай рыторыкі й патэтычнасьці, што ў большай або меншай ступені мсьцяцца яшчэ й сяньня на творах шмат якіх пісьменьнікаў, засланяючы й нявечучы суровую ваенную рэчаіснасьць.

На гэты мамэнт у творчасьці Васіля Быкава трэба зьвярнуць увагу асаблівую. У той час, калі партыя патрабавала ад пісьменьнікаў ідэялізаваць героіку мінулай вайны й выяўляць пачуцьцё безаглядпай аддансьці партыі, Васіль Быкаў паставіў на першым месцы народнае пакутніцтва, ня толькі спрычыненае самой вайной, але й сталінскімі мэтадамі вядзеньня вайны. Гэткі пагляд на вайну асабліва выразны ў аповесьці 1962 году „Трэцяя ракета", за якую была прысуджаная ў 1963 годзе ейнаму аўтару Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа. У гэным часе прызнаньне гэтае было нармальнае й зразумелае, бо гэта былі гады самага гарту дэсталінізацыі.

У сваім інтэрв'ю, дадзеным паэту Анатолю Вярцінскаму яшчэ ў 1964 годзе, Васіль Быкаў раскрыў галоўную асаблівасьць свайго творчага мэтаду, кажучы: „Абавязак кажнага сьветкі й удзельніка мінулай вайны — гаварыць толькі праўду, якой-бы горкай яна ні здавалася, будучы пры гэтым бязьлітасным у сваёй шчырасьці" (Анатоль Вярцінскі, „Галоўнае — праўда . . ." „ЛіМ", № 81, 9 кастрычніка 1964).

Асобнае месца ў творчасьці Васіля Быкава займае аповесьць 1970 году „Сотнікаў". Пісьменьнік засярэдзіў тут сваю ўвагу на двух пэрсанажах радавых партызанаў, адзін зь якіх — Беларус з Гомельшчыны Рыбак, а другі — Расеец, акружэнец Сотнікаў. Арыштаваныя паліцыяй, кажны зь іх паводзіць сябе йнакш. Рыбак стараецца выйсьці жывым, прабуе перахітрыць і ашукаць нямецкіх карнікаў. Падведзены пад падрыхтаваную для яго пятлю, згаджаецца паступіць у паліцыю, цьвёрда пастанавіўшы шкодзіць акупантам і там, а пры першай нагодзе ўцячы да партызанаў. Сотнікаў-жа, фанатычна прасталінейны ў сваіх паглядах і паводзінах, навет і ня думае ратавацца й спакойна йдзе на шыбеніцу.

Першыя рэцэнзэнты аповесьці цьвердзілі, што ў насьвятленьні аўтара Рыбак пайшоў на здраду і, як гэткі, асуджаны пісьменьнікам, а Сотнікаў застаўся ідэялам пісьменьніка і ўвасабленьнем ягоных паглядаў.

Гэткая выснова аказалася, аднак, пасьпешлівай. Пазьнейшыя крытыкі, галоўна два зь іх даволі аўтарытэтныя Віктар Каваленка й Алесь Адамовіч у сваіх артыкулах напачатку 1973 году прыйшлі да зусім іншае высновы, а іменна — што ніякага супрацьстаўленьня Сотнікава Рыбаку ў ваповесьці няма. Каваленка, прыкладам, пісаў: „Дзякуючы прыроднаму дазнаньню жыцьця, Рыбак часам стаіць вышэй за Сотнікава, які ўспрыймае падзеі зь ведамай зададзенасьцяй і мерае жыцьцё гатовымі формамі . . . Рыбак — частка народнай масы, што апынулася на акупаванай тэрыторыі, дзе сам ход акалічнасьцяў вёў у партызаны, што сярод партызанаў было нямала й гэткіх людзей, як Рыбак . . ., што сталі на змаганьне дзякуючы ўзьдзеяньню бытавых акалічнасьцяў без дастатковага асэнсаванай перакананасьці" („Неман", № 1, 1973).

Вось тут ключ да зразуменьня Рыбака, як гэнай „часткі народнай масы", што йшла ў партызаны ня зь ідэйнага пераканаьня, а дзеля самаабароны, змушаная да гэтага абставінамі. Іншага-ж выхаду, каб выжыць, у гэных абставінах ня было. Сотнікаў-жа, ня будучы часткай гэнай „народнай масы", а чалавекам на Беларусі чужым, не разумее гэтых абставінаў і створанай імі сытуацыі.

Зь лёгікі дзеі аповесьці ані ня відаць, каб аўтар кагосьці аднаго — Сотнікава ці Рыбака — надзяляў асаблівай сымпатыяй ці антыпатыяй. Затое сымпатыя й спачуваньне пісьменьніка на баку беларускага цывільнага жыхарства, што з прычыны, ато й зь віны партызанскай акцыі сталася нявіннай ахвярай. Мала таго, што беларускае сялянства было змушанае пракарміць узаемна варожыя арміі — Немцаў і партызанаў, а самому жыць упрогаладзь, але й было яно аб'ектам помсты Немцаў за партызанскія дывэрсіі. У ніводным іншым творы Васіля Быкава гэтак шырака й праўдзіва не адлюстраваная вялікая трагэдыя й нявымоўнае пакутніцтва беларускага народу, што былі спрычыненыя вайной і партызаншчынай, як у ваповесьці „Сотнікаў".

На фоне асуджэньня вайны, як абсалютнага зла, і на фоне гэткага-ж асуджэньня сталіншчыны, выплывае шляхотная ідэя, сфармуляваная ў наступных аўтарскіх словах аповесьці „Мёртвым не баліць": „У сорак пятым мы ня толькі здабылі перамогу. За чатыры гады вайны мы, як ніколі, згуртаваліся ў вадно цэлае і ўбачылі, на што зь немагчымага мы здольныя. Дух свабодалюбства й непадлегласьці злу здабыў сабе ў тэй барацьбе магутныя крылы. Я веру, яны не апусьцяцца".

Чытачу ясна, што гэны „дух свабодалюбства" — гэта запаветная пісьменьнікава ідэя, якой ён застаўся непахісна верным аж да апошняга часу, а гэнае „зло", якому пісьменьнік перастаў быць падлеглым, гэта ўвесь кашмар сталінскае сыстэмы. Пісьменьнік верыць, што ягоныя й яму падобных крылы супраціву гэтаму злу больш не апусьцяцца.

І яны не апусьціліся. Пасьля аповесьці 1965 году „Мёртвым не баліць" гэткую-ж ідэйную пазыцыю заняў пісьменьнік і ў ваповесьці 1968 году „Праклятая вышыня", а таксама ў ваповесьці 1969 году „Круглянскі мост". І таму ўсе тры гэтыя аповесьці сталіся аб'ектамі войстрых і тэндэнцыйных, а нярэдка й злосных нападаў, і гэта пераважна й перш-наперш у цэнтральным маскоўскім, а тады ўжо ў беларускім менскім друку. Сярод аўтараў гэтых пагромных артыкулаў былі й людзі з вайсковых колаў і з партыйнага апарату, што зь літаратурай вельмі мала мелі супольнага.

Беспасярэднім вынікам гэтых нападаў было тое, што ўсе тры аповесьці Васіля Быкава „Мёртвым не баліць", „Праклятая вышыня" й „Круглянскі мост", пасьля свайго першага зьяўленьня ў пэрыёдыках, кніжнымі выданьнямі не публікуюцца й ня былі ўлучаныя ў двутомнік ягоных „Выбраных твораў" 1974 году.

Усё гэта, аднак, ідэйна й палітычна ня зьвіхнула Васіля Быкава. Наадварот, гэткую-ж сваю апазыцыйнасьць да сталіншчыны, а таксама гэткую-ж наважаную абарону свабоды творчасьці задэманстраваў ён ня менш зырка і ў сваіх найсьвяжэйшых аповесьцях — „Яго батальён" 1975 году ды „Пайсьці і не вярнуцца" 1978 году.

Дык якія-ж мэты мела перад сабой партыя, надаючы цяпер Васілю Быкаву ганаровую годнасьць народнага пісьменьніка БССР?

Адказ на гэтае пытаньне напрошваецца сам сабой: уплынуць на Васіля Быкава, каб ён перайшоў на ідэйныя пазыцыі, сугучныя партыйнай лініі. Калі ўзапраўды гэта так, дык прыхільнікі й энтузіясты таленту Васіля Быкава, трэба думаць, могуць быць спакойныя ў тым, што ён ня зрадзіць свайму запаветнаму „духу свабодалюбства" й „непадлегласьці злу", што спадарожнічалі ягонай творчасьці ад самага пачатку ды спрычыніліся да ягонай вялікай папулярнасьці ня толькі ў Савецкім Саюзе, а й вонках яго.

Апрача ўсіх іншых ідэйных якасьцяў, Васіль Быкаў глыбокі й адданы патрыёт Беларусі. Праўда, галоўная тэма ягоных аповесьцяў — чалавек на вайне й бязьмежны духовы боль з прычыны незавінных народных пакутаў, тэмы самі па сабе ўнівэрсальныя. Таму беларускі патрыятызм праявіўся ў яго адно ў некаторых аповесьцях і то даволі слаба. Гэта ў ваповесьцях „Альпійская балада" й „Праклятая вышыня". Затое ў сваёй аўтабіяграфіі ў згаданым біяграфічным даведніку „Пра час і пра сябе" пра свой нацыянальны патрыятызм Васіль Быкаў пасьветчыў вельмі моцна. Ён пісаў: „Усю вайну і яшчэ дзесяць год пасьля яе быў далёка ад Беларусі, але сьветлы вобраз роднага краю мацярынскай пяшчотай жыў у маім сэрцы. Радзіма клікала ў снах, трывожыла ў марах, напамінала аб сабе паўзабытай матчынай мовай".

Ст. Станкевіч

# „ПЕРАКЛАДЫ" ТВОРАЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Творы Васіля Быкава перакладаюцца ў замежныя мовы, у дадзеным выпадку ў ангельскую, як правіла, з расейскіх перакладаў, якія часта хвальсыфікуюць Быкаўскі беларускі арыгінал. Наколькі-ж удалы пераклад арыгіналу, асабліва ў прозе, нагэтульки ён уплывае й на думку чытача, які ўпаршыню знаёміцца з творам у перакладзе, пра майстроўства пісьменьніка.

Вазьмем дзеля прыкладу аповесьць „Сотнікаў". Ня будзем лішня даводзіць, што ў расейскай мове ёсьць блізу заўсёды адпаведнае слова, каб перадаць дакладна быкаўскі арыгінал. Але вось, прыкладам, Быкаў ужывае слова „ўратавацца", а ў расейскім перакладзе напісанае „смыться", таму што гэтае „ўратавацца" датычыцца да Рыбака. А Рыбак, бачыце, паводле савецкае крытыкі, пэрсанаж адмоўны, здраднік.

Гэткіх недакладнасьцяў можна знайсьці шмат, але ня ў гэтым рэч. Важна тое, што ў расейскім варыянце аповесьці „Сотнікаў" пазьнікалі цэлыя фразы, зь вельмі дакладнымі характарыстыкамі або Рыбака, або Сотнікава. У арыгінале аповесьці, прыкладам, ёсьць гэткія словы: „Каму не вядома, што ў той гульні, якая завецца жыцьцём, куды з большым выйгрышам аказваецца той, хто ўмее хітраваць, хто дбае пра свой лёс, а не пра свой не заўсёды здаровы гонар. Ды і як-жа інакш?" У расейскім перакладзе: „Но ведь кому не известно, что в игре, которая называется жызнью, чаще с выйгрышем оказывается тот, кто больше хитрить. Да и как иначе?" „Хто дбае пра свой лёс, а не пра свой не заўсёды здаровы гонар" — у расейскім варыянце прапушчана. А гэтае прапушчанае якраз і характызуе Рыбака й Сотнікава. Рыбак дбае пра свой лёс, тымчасам як „не заўсёды здаровы гонар" Сотнікава перашкаджае яму задумацца над абставінамі, зразумець, што фактычна гэта з прычыны ягонае хваробы, зрадлівага кашлю на падстрэшшы, гінуць Дзёмчыха, староста й дзяўчынка Бася. Аднак трэба, як кажуць, аддаць належнае цэнзуры, таму што аповесьць „Сотнікаў" усё-ж ня так уцярпела ад яе, як гэта здарылася з аповесьцяй Быкава „Мёртвым не баліць".

Перакладчык Гарбачоў у некаторых мясьцінах пакінуў толькі шкілет аповесьці. Выкінутыя цэлыя абзацы, дашчэнту зредукаваныя характарыстыкі некаторых гэрояў, прапушчаныя некаторыя палітычныя мамэнты аповесьці, абагульненыя пагляды аўтара. Аповесьць у перакладзе проста непазнавальная. Замест 38 раздзелаў у перакладзе ўсяго 33, пры тым гэтыя 33 яшчэ й скарочаныя.

Выкінутая, прыкладам, гэткая эмацыянальна- дакладная дэталь вайны: „Ведома, паніка на фронце баялася ўсе гады, пачынаючы з сорак першага. Наконт яе былі грозныя загады, у тым ліку і самога Сталіна. Падазрэньне ў панікёрстве часам мела куды больш небясьпечныя вынікі, чым рэальная пагроза з боку Немцаў".

У арыгінале аповесьці „Мёртвым не баліць" шмат кажацца пра штрафныя батальёны, пра „Смерш", як у наступнай фразе: „Не забылася, як пайшлі з палка і не вярнуліся хлопцы за здачу пазіцый, якіх нельга было ўтрымаць, за нявыкананьне нявыканальных загадаў, за сутычкі з начальствам і за недазволеныя размовы таксама".

Шмат што выкінутае із сцэны Васілевіча з Гарбацюком. Сустрэча з Гарбацюком, зь ягоным страшным мінулым, чалавекам, якога аніяк ня мучыць сумленьне за ягоныя грахі перад нявінаватымі мёртвымі, падпалкоўнікам ваеннага

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

# КСЁНДЗ ПЁТРА ТАТАРЫНОВІЧ

**(ПАСЬМЯРОТНЫ ЎСПАМІН)**

**Ад Рэдакцыі:**

Аўтар ніжэй зьмешчанага ўспаміну Станіслаў Бубень, які жыве цяпер у Любліне ў Польшчы, прыехаў на пару месяцаў у Нью Ёрк у вадведзіны да свайго сына. Станіслаў Бубень былы вучань ксяндза Пётры Татарыновіча перад мінулай вайной у Баранавічах. Успамін Станіслава Бубеня цікавы й карысны аўтэнтычны дакумэнт пра Ксяндза Пётру Татарыновіча, які ў даваенным пэрыядзе ў Заходняй Беларусі, а пазьней у этнаграфічнай Польшчы на Мазуршчыне, куды быў высланы польскімі духоўнымі ўладамі за сваю беларускасьць, ахвярна ўсьведамляў маладое беларускае пакаленьне, прывіваючы яму нацыянальны патрыятызм. Адным з прыкладаў і довадаў гэтае дзейнасьці й быў Станіслаў Бубень, які, пражываючы даўжэйшы час у Польшчы ужо пасьля мінулай вайны, захаваў у сабе глыбокае пачуцьцё беларускага патрыятызму. Будучы цяпер часова ў Нью Ёрку, дзе й напісаў ніжэй зьмешчаны ўспамін, ён пазнаёміўся зь дзейнасьцяй беларускай эміграцыі, нашай газэтай і беларускімі кніжнымі выданьнямі, што ў сваю чаргу пераканала яго аб вялікай нацыянальнай ролі Беларусаў у Вольным Сьвеце.

**

Сучасны беларускі адраджэнскі рух на эміграцыі страціў у вапошнім часе із свайго асяродзьдзя аднаго вельмі актыўнага дзеяча й духоўнага правадыра. Як ведама, нядаўна — 3 верасьня 1978 году — памёр у Рыме Ксёндз Пралат Д-р Пётра Татарыновіч. Узапраўды быў ён, як часта яго называлі, — „чалавекам ідэі". Верыў моцна, што на родным загоне мала-памалу ўзыйдзе сонца вольнага палітычна-грамадзкага нацыянальнага жыцьця.

Веліч ідэялаў і думак, якія Ксёндз Татарыновіч адкрываў беларускаму народу, прыймала шчыра беларуская каталіцкая моладзь, якую ён узгадоўваў, будучы школьным вучыцелем і прэфэктам.

Аўтар гэтых успамінаў меў шчасьце ў юнацкіх гадох быць яговым вучнем. Карыстаў зь ягоных сьветлых навук, мала таго, палюбіў свайго апякуна й стараўся йсьці сьцежынкай, на якую ён яго накіроўваў. Дык ня дзіва, калі на другія ўгодкі ягонай сьмерці прысьвячу трохі словаў памяці майго былога ўзгадавальніка.

Пасьля Першай сусьветнай вайны, напачатку 20-ых гадоў, Ксёндз Пётра Татарыновіч, як малады сьвятар, выконваў свае абавязкі ў Заходняй Беларусі: сьпярша ў Пінску й Навагрудку, пазьней у Баранавічах (1923-1926 гг.), дзе вучыў рэлігіі ў дзьвюх суседніх 7-міклясовых пачатковых школах.

У працу над узгадаваньнем дарастаючай моладзі ён укладаў усе свае прыродныя здольнасьці пэдагагічныя. Абдораны незпажытай сілай уплыву на маладыя душы, ён патрапіў згуртаваць вакол сябе немалую групу хлопцаў і дзяўчатаў, зь якіх, спадзяваўся, выйдуць вартасныя людзі.

Умела й зь вялікім веданьнем вучнёўскае псыхалёгіі, ён праводзіў навучаньне рэлігіі. Ня была гэта сухая катэхэза, але ўпойваў нам праўды веры, паслугоўваючыся прыгожай літаратурай. Часта на тэмы выкладаў падбіраў паэтычныя легенды ўлюблёнага ім Яна Ёргэнсэна. „Гэты дацкі пісьменьнік—аб'яўляў прэфэкт — быў няверуючым, меў вельмі крытычны розум, дык з патрэбы сваёй здаровай душы шукаў ідэялу для свайго рамантычнага містыцызму й знайшоў яго ў каталіцызьме". Гэтак наш мудры вучыцель на прыкладах жыцьця выдатных людзей паказваў праўдзівую дарогу, якою мы, моладзь, павінны былі імкнуцца да Любасьці, Прыгажосьці й Дабра — непрамінальных найвышэйшых вартасьцяў.

Ксёндз Пётра Татарыновіч з энтузіязмам і верай у собскія сілы з адданьнем працаваў для моладзі. У нядзельных казаньях прамаўляў да нас надта прыгожа. Вучыў любіць Бога й прыроду. Сваім лірычным тонам упрыгожваў набажэнствы. Ягоны сьпеў чараваў нас. Прэфэкт стварыў вучнёўскі хор, вось і выступалі мы публічна ў касьцеле ці на шырэйшым форуме падчас сьвяточных абходаў, арганізаваных у школе. У кароткім часе, перамогшы матэрыяльныя цяжкасьці й супраціў мясцовых уладаў, збудаваў Ксёндз школьную капліцу ў калідоры школьнага будынку. Была яна скромная, але ўладжаная зь вялікім смакам і эстэтыкай. Цяпер школьнікі не хадзілі самапасам, бо мелі сваю сьвятыню й духовага правадыра, якога шанавалі із сыноўскім пачуцьцём.

Апрача здольнасьці ўзгадавальнай, меў наш прэфэкт надзвычайную ўмеласьць арганізацыйную. Ягонай мэтай было выкіраваць сваіх вучняў на добрых вернікаў і грамадзян, разумных і дзейных сыноў Касьцёла й Бацькаўшчыны, прывучыць іх з моладу да Божае службы, да жыцьця прыгожага, маральнага, працавітага, ахвярнага.



Пад словам „Бацькаўшчына" — паясьняў нам — трэба разумець нашую дарагую зямліцу, што нас узгадавала, тых людзей, зь якімі лучыць нас прыродная сувязь, нашую гісторыю, нашыя песьні, абычаі, якія належалі да нашых прадзедаў бяз увагі на тое, ці яны сяньня агульна прызнаныя, ці не. Кіруючыся гэткімі ідэямі, зарганізаваў Ксёндз Пётра Татарыновіч у Баранавічах Саюз Каталіцкае Моладзі. Пад ягоным кіраўніцтвам і рунілася буйнай зеленяй юнацкая ніва.

Ад самага пачатку Саюз разьвіваўся аж дасягнуў за пару гадоў найвышэйшага росквіту. Ідэйна-ўзгадавальная праца ў ім пульсавала з жывою энэргіяй, усе мы, юнакі, разумелі патрэбу такога дабрадзейства на полі самаўзгадаваньня. Не зважаючы на няпрыхільнасьць і недавер школьных уладаў да Саюзу, моладзь выконвала свае абавязкі прыкладна. Старалася паглыбляць любасьць і прывязанасьць да прыгожых ідэялаў шляхам супольных набажэнстваў, рэкалекцыяў, чытаньня кніжак, гутарак, а нат празь песьні й гульні.

Душою ўсякай імпрэзы быў, вядома, ніколі няўтомны Ксёндз. Ён інсьпіраваў розныя пачынаньні, якія маглі нас цікавіць. Асабліва будзіў у нас гарачую любасьць да чароўнае прыроды. Арганізаваў экскурсіі на вольны прастор, у лес. Стараўся прыбліжыць нас да вёскі, якая, як навучаў ён, заўсёды застанецца для нас быццам музэй забыткаў нашае мовы й пабожных абычаяў. Часта ў скромнай сялянскай сьвятлыцы зьліваліся мы сваім духам із затопленым у малітве простым, духам братоў нашых сялян-Беларусаў.

Прыгожая й плодная ўзгадавальная дзейнасьць, якую ў духу беларускага патрыятызму вёў Ксёндз П. Татарыновіч у Баранавічах, на г.зв. „Крэсах Всходніх" перадваеннае Польшчы, прыпынілася. Прадаўжаць яе было не на руку мясцовым уладам. Дзеля гэтага біскуп паслаў прэфэкта на бедную заняпалую парахвію ў глыб краю (на Мазуршчыну), каб толькі далей ад людзей, зь якімі быў зьвязаны ідэяй. У мілай школьнай капліцы, якую сам зладзіў, прамаўляў апошні раз да сваіх каханых вучняў. На вачох меў сьлёзы, разам зь ім плакалі хлопцы й дзяўчаты. Узапраўды была гэта хвіліна, што нас рашчуляла.

Быў год 1926. Сябры й сяброўкі Саюзу Каталіцкае Моладзі ў пагодны сонечны летні дзень зарганізавалі экскурсію ў лес, апошнюю разам із сваім апякуном Ксяндзом П. Татарыновічам. Затрымаліся мы на маляўнічай палянцы. Распалілі вогнішча. Распачаўся сход.

У кароткіх і сардэчных словах наш дарагі вучыцель і правадыр маляваў працяг і мэты працы ў Саюзе ад ягонага паўстаньня да апошняе хвіліны. Кончаў сваю мову клічам: „Дык да працы, дарагая юнацкая моладзь! Да шчасьця! Да лепшае долі! Да найвышэйшых ідэялаў клічу вас у разьвітальных маіх словах!"

З маладых грудзей вырываецца гімн хрысьціянскае моладзі:

Да лепшае долі праз душ адраджэньня
Мы пойдзем усе грамадою!
Да вольнага ў сьвеце народаў збратаньня
Мы ўстанем прад раньняй зарою!

Дык чэсьць тым, што нас разбудзілі
Навукай і верай, і цнотай,
Што ўзносяць, бы сокалы, ў высь нашы крыльлі
Ды ў бой павядуць нас з благотай!

(Гэтыя радкі гімну напісаў Ксёндз Татарыновіч пад псэўдонімам Пётр Задума).

І вось на гэнай палянцы, ледзь сонца схавалася за густым лесам і пачало сутонець, селі мы пад зыкі сыгнальнае трубкі на зялёным дыване перад старым цымэнтавым бліндажом, пабудаваным Немцамі ў часе Першай сусьветнай вайны. Бліндаж раптам зьмяняецца ў прыгожую сцэну.

Што гэта? З бліндажа, бы з грабу, выходзіць белая постаць старца. Доўгія белыя валасы, мауляў сьнежныя воблакі, зьвісаюць зь ягонай галавы. Такія-ж буйныя вусы вісяць спад густых кусьцістых броваў. Бацькаўскія вочы ўзіраюцца ласкава на прысутных. Рысы твару вельмі мілыя й свойскія. Доўгая белая сарочка, сьпятая пад барадою вішнёвай істужкай, і такія-ж нагавіцы, акрываюць ягоны сталетні, худы, пахілы стан. Уваднэй руцэ трымае дзядоўскі кіёк, а другою вітае ўсіх такімі вось словамі:

„Прывітаньне вам, дарагая моладзь!

Бачу, углядаецеся на мяне зь нейкім дзіўным жахам, як-бы на варожага незнаёмца. Ня бойцеся, мілыя! Я ваш прадзед! Бацька дзядоў вашых крывіцкіх, якога мноства гадоў таму назад тут вось у магілу ворагі палажылі. Доўга стагналі тут мае грудзі пад цьвёрдым гэтым каменем гістарычнага хвальшу. Цяжкая была мне магільная зямліца, стаптаная капытамі й ботамі розных вояў. Горкаю мне была родная даліна, прапоеная сьлязьмі й крывёю пакрыўджаных, абманутых сыноў і ўнукаў, замучаных доляй-нядоляй. Доўга душа мая цярпела у муках чысцовых за даўнейшую нядбайлівасьць і забабоннасьць у веры, якая цяпер вось адбіваецца ў народзе пахмурным рэхам бязьвер'я, бязбожнасьці. Доўга душа мая пакутавала за здраду роднае Бацькаўшчыны й мёдапльннай нашай мовы, якую прамянялі мы на ўсё чужое, што выкрывіла й зглуміла нам народную душу.

Аж настаў шчасьлівы ясны дзень. Сяньня з маладых хрысьціянскіх грудзей патомнага юнацтва загрымела песьня ў роднай мове й ускалыхнула магутнаю сьвятою сілаю маю халодную магілу. Так ускалыхнула, што ачнуўся я ад цяжкіх, задаўненых мукаў ды пачуў на душы райскую роскаш і сілу ў сабе.

Унукі, бач, знайшлі згубленыя намі простыя шлях адраджэньня... Унукі направілі нашыя памылкі ідэйнай, ахвярнай сваёй працай ды адплацілі Божай справядлівасьці за нашае цёмнае самалюбства... О, мілыя, небажаты! Якім-жа салодкім, прыемным акордным рэхам зазьвінелі й мае старыя струны ў такт вашага мілагучнага гімну. Дык чэсьць тым, што вас разбудзілі! Але чэсьць і вам, адважныя, ідэйныя юнакі! Чэсьць... і перасьцярога... Бо сяньня яшчэ больш, як даўней, парасстаўлялі на вас цянёты...".

Стары вяшчун затрымаўся ў сваёй мове. Ня чутна вясёлых воплескаў. Гіпнатычная нейкая сіла зачаравала ўсіх і затрымала ў разжаленых і захопленых грудзях усякі голас. Толькі агонь сычыць і патрэсквае, полымя разганяе чорную цьму й акружае ясьнасьцяй дзіўнага старца... Ціш нямая кругом...

Раптам, неўспадзеўкі, няведама скуль, выплывае ціхая, далікатная, сумная, мілагучная мэлёдыя й льлецца стройным акордам па лесе й палянцы, парываючы ўсіх у зачараваны, далёкі, іншы сьвет... Папліла звонкая песьня:

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён,
Толькі з воляй і доляй ня бачыўся.
Сонны сэрцам, душой,
Драмаў ў хаце крывой,
А выходзіў — сьлязамі сьлед значыўся.

Аж вось чуе Лявон
З усіх клікі старон,
Што ён дурань жыве па быдлячаму.
Дый сам тут зразумеў,
Што дум сьветлых ня меў,
Што падобен быў дрэву хадзячаму.

Зварухнуўся Лявон,
Як вада, як агонь,
Пачуў сілу ў сабе нябывалую.
Ўжо бяда — не бяда,
Ўжо нуда — ня нуда,
Запеў песьню сваю разудалую.

Зямля стогне, дрыжыць,
Як пяе, як крычыць,
Як прасьветы сабе дамагаецца.
Аж ад песень такіх
Страх напаў на другіх
І вось чорная моц сабіраецца...
І пайшло ўсё ўверх дном,
Сьвісты, енкі кругом,
Груганы на здабычу зьлятаюцца.
Шчасьце даць бедаку,
Ня ўсім шло на руку,
Ня ў руку, што Лявон прачынаецца.

Дарма сілен Лявон
І адважны быў ён —
На падмогу дарма ён надзеецца
Галаву у баю
Даў за праўду сваю...
Толькі памятка-насып віднеецца.

Ляжыць, дрэмле Лявон,
На грудзях вырас клён.
Калі-ж вецер па полі расходзіцца,
Шуміць сумна той клён,
Яшчэ ўстане Лявон.
Гэй! Лявоны ў нас не пазводзяцца!..

(Янка Купала).

Сэрцы ўва ўсіх замерлі... Захапіла воддых... Белая паважная постаць старца, прыбраная водблёскамі полымя, стаіць узьнёсшы вочы ў неба... Калі-ж апошнія тоны чароўнае песьні, пракаціўшыся рэхам у цёмных лясных далях, сканалі, старац, працягнуўшы да нас сухія, маласільныя рукі, зьвяртаецца з такімі словамі:

„Дзеці мае дарагія! Беларусь мая маладая! Вось я ўжо ўстаў. Падтрымайце-ж мае старыя сілы! Уліце сваю ідэйную, агністую маладую душу ў мае згрыбелыя, спакутаваныя косьці. Тады зажыву я новым, слаўным, шчасьлівым жыцьцём у сям'і вольных і роўных народаў".

Тут усе прысутныя не маглі ўстрымацца ад патрыятычнага энтузіязму. Яны, сарваўшыся, падбягаюць бліжэй да вогнішча і ў вадказ на прамову старца, хапаюць яго на рукі ды падкідаюць угару з крыкам: Гура! Гура! Хай жыве Лявон! А потым з усяе сілы:

Беларусь, Ты не загінеш!
Беларусь, Ты не памрэш!

Гэтак вось Ксёндз Пётра Татарыновіч, прыбраўшы постаць старцавяшчуна, разьвітаўся з намі на лясным урочышчы, дзе адбылося апошняе веча баранавіцкага Саюзу Каталіцкае Моладзі. Усё, што ў паднятым настроі мы тады перажывалі, апісаў прэфэкт у малой сваёй кніжачцы пад загалоўкам „Зярняткі з роднае юнацкае нівы", выдадзенае ў 1929 годзе ў Вільні. Публікацыя гэтая ёсьць дакумэнтам, які сьветчыць, як будзілася ў гэных гадох беларуская патрыятычная сьведамасьць.

Нажаль, Ксёндз Пётра Татарыновіч мусіў адыйсьці — як сам казаў — у час жніва, не сабраўшы плёну сваёй як-жа прыгожай ідэйнай працы. І ніхто спадчыны па ім ня пераняў. І так жаліўся перад сабою, думаючы аб сваіх вучнях: „Дык і асталіся снапкі тыя адзінока марнець у чыстым полі на дажджы ды негадзі зжатыя, зьвязаныя, толькі ня зьвезеныя ў гумно".

А ўсё-ж такі ня ўсе снапкі змарнелі, вось некаторым удалося захавацца ад „дажджу ды негадзі..."

**Станіслаў Бубень**

**Нью Ёрк, верасень 1980 г.**

---

## ДОКТАРА ВІТАЎТА ТУМАША

*старшыню Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, навукоўца, плённага дасьледніка жыцьця й дзейнасьці беларускага першадрукара Францішка Скарыны, грамадзкага дзеяча, былога рэдактара й сталага супрацоўніка газэты „Беларус", ініцыятара й арганізатара культурных імпрэзаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня — шчыра вітаем зь 70-мі ЎГОДКАМІ ЖЫЦЬЦЯ, што спаўняюцца 20 сьнежня 1980 году, ды зычым добрага здароўя й усялякае памыснасьці ў далейшым жыцьці й працы.*

*Галоўная Управа БАЗА*
*Рэдкалегія „Беларуса"*
*Сябры Управы БІНіМ*

---

## ПАДЗЯКА

Маім сябром і прыяцелям, што прывіталі мяне зь 75-мі ўгодкамі ад нараджэньня праз газэту „Беларус" і асабіста, шчыра дзякую за памяць і добрыя зычэньні.

Адначасна вітаю ўсіх маіх сяброў, прыяцеляў і знаёмых **са сьвятам Каляды,** жадаю добрага здароўя й памыснага 1981 году. Сто год!

**Мікола Скабей**

---

## СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ У ПАРЫЖЫ

У Парыжы, з нагоды прыезду туды Біскупа Часлава Сіповіча, адбылася 28-га верасьня сёлета сустрэча Беларусаў. Шчасьлівым выпадкам у Парыжы ў гэтым часе была сям'я спадарства Сацэвічаў з Новае Зэляндыі, прыбылі зь Гішпаніі др. В. Сянькевіч, з Бэльгіі — інж. Я. Жучка ды колькі асобаў з Моншанэну (цэнтральная Францыя), а таксама з паўночнае Францыі. Сустрэча пакінула надзвычай прыемнае ўражаньне.

У спатканьні зь Біскупам Сіповічам узяў таксама ўдзел прадстаўнік кардынала Парыжу Монсіньёр Дэкам.

Ураньні адбылася багаслужба ў напоўненай удзельнікамі сустрэчы капліцы для Беларусаў пры армянскай катэдры. Гэтулькі людзей у капліцы мы яшчэ ніколі ня бачылі.

Папаўдні ў нанятай парахвіяльнай залі нашыя жанчыны беларускага, францускага й польскага паходжаньня наладзілі надзвычай удалы пачастунак, на якім нічога не бракавала. Усе госьці разьмясьціліся вакол маленькіх столікаў у прыгожа ўдэкараванай беларускім сьцягам, Пагоняй, партрэтам Біскупа Сіповіча й абразамі залі ды, частуючыся, гутарылі аб усім, што каму ляжала на сэрцы.

Прамаўлялі: Пратаярэйны Архімандрыт Аляксандар Надсон, рэктар Беларускае рэлігійнае місіі ў Францыі, сп. Міхась Наўмовіч, Маньсіньёр Дэкам ад францускага духавенства ды той, каму наладзілі гэтае прыняцьцё — Яго Эксцэленцыя Біскуп Сіповіч. Кажны з прамоўцаў выказаў падзяку тым, што арганізавалі гэткае прыемнае спатканьне, ды тым, што на яго прыехалі з далёкіх краінаў або мясцовасьцяў Францыі.

Позна пад вечар, разьяжджаючыся з маленькім сумам, кажны жадаў, каб гэткія спатканьні адбываліся часьцей.

**М. Н.**

# ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГОД ТАМУ

**Ад Рэдакцыі:** Ніжэй друкуем з дазволу Аўтара зроблены намі пераклад адпаведных мясцінаў выдадзенай у 1958 годзе ў Мюнхэне па-ангельску кнігі Антона Адамовіча "Opposition to Sovietization in Belorussian Literature" („Апазыцыя савeтызацыі беларускай літаратуры"). Аўтар згаданае кнігі дапоўніў наш пераклад некаторымі дэталямі, якія могуць даць больш жывое й дакладнае ўяўленьне пра падзеі паўвяковае даўнасьці сяньняшняму беларускаму чытачу. Кніга пісалася ў 1957 годзе для англамоўнага чытача.

***

Пасьля 1929 году палітычная атмасфэра ў Савецкай Беларусі пачала ўсё больш і больш згушчацца. Працэс калектывізацыі сельскае гаспадаркі быў у поўным гарце, пачыналася пакрысе й гэтак званая „ліквідацыя кулака як клясы", або папулярна „раскулачваньне". Сямтам выбухалі сялянскія паўстаньні, але іх адразу-ж здушвалі прыведзеныя ў поўную баёвую гатовасьць войскі нутраное аховы ГПУ. Кампанія гэтак званага „змаганьня зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам" таксама выразна ўваходзіла ў новую фазу, у якой пачыналася й тут свайго роду „раскулачваньне" — „ліквідацыя" вінавачаных у тым беларускім нацыянал-дэмакратызьме. У лютым 1930 году адбыліся першыя арышты гэткіх асобаў. Няшмат было арыштавана гэтым разам, і найбольш выдатныя „нацдэмы", як пачалі ўжо зваць вінавачаных у беларускім нацыянал-дэмакратызьме, заставаліся яшчэ незачэпленымі.

Зь літаратараў быў арыштаваны толькі Нічыпар Чарнушэвіч. У 1927 годзе яму ўдалося выпусьціць свой адзіны зборнік вершаў „Дзіва". У літаратурных колах было ведама, што бальшыня матарыялу, прызначанага паэтам для зборніка, не прайшла гэтак званае палітычнае рэдакцыі выдавецтва, але й прапушчаныя гэнай рэдакцыяй і цэнзурай вершы таксама былі далёкія ад вымаганьняў поўнае „ідэялягічнае вытрыманасьці". Нат вельмі прыхільная рэцэнзія ў часапісе „Узвышша" адзначала адштурхваньне паэты ад сучаснасьці й вялікае заміляваньне да іншасказальнасьці ў ягоных вершах, на выпраўленьне яго зазначаючы, што нельга змусіць паэту знарочыста пісаць гэтак, як вымагаецца мамэнтам, бо знарочыстая паэзія ня ёсьць паэзія; паэзія мусіць гаварыць так, як адчувае ейны творца. Але тое, што адчуваў паэта, нат у „лібэральных" яшчэ абставінах 1927 году магло быць выражанае адно іншасказальна, алегарычна. У чытацкае публікі, якая старалася расшыфраваць гэтыя алегорыі, Нічыпар Чарнушэвіч і набыў рэпутацыю „контррэвалюцыйнага" паэты, хадзілі чуткі, што ў часе грамадзянскай вайны ён быў ахвіцэрам арміі Пятлюры на Ўкраіне. Дык арышт гэтага „контррэвалюцыйнага" паэты й былога пятлюраўца сярод колькіх іншых асобаў, абцяжаных таксама „контррэвалюцыйнай мінуўшчынай", былых эсэраў — ня выклікаў асаблівага зьдзіваваньня.

У сакавіку 1930 году на Ўкраіне быў пастаўлены судовы працэс над СВУ — „Супалкай Вызваленьня Ўкраіны", і рабілася відавочным, што ГПУ рыхтуе нешта падобнае й на Беларусі: суд над нейкай сакрэтнай змовай нацыянал-дэмакратаў. Але больш арыштаў тымчасам ня было. Зьявіліся й аптымістыя, якія выказвалі нат нямаведама адкуль зачэрпаную пэўнасьць, што „гэта ўжо ўсё", цяпер застаецца чакаць на відовішча „працэсу". Гэткія аптымістыя ў літаратурных колах даводзілі, што аднаго арыштаванага Нічыпара Чарнушэвіча зусім досыць, каб на тым працэсе была прадстаўленая й літаратура — то-ж бо на ўкраінскім працэсе СВУ яна прадстаўлялася адным, прытым таксама далёка ня выдатнае славы паэтам Іўчанкам... Але бальшыня беларускага нацыянальнага актыву чакала далейшага разьвіцьця падзеяў зь немалой боязяй.

Ад 26 чырвеня па 13 ліпеня 1930 году адбываўся ў Маскве названы „гістарычным" XVI зьезд Усесаюзнае Камуністычнае Партыі, які зьвярнуў асаблівую ўвагу на пытаньні „раскулачваньня", а таксама й „нацыянальных ухілаў". У справаздачным дакладзе самога Сталіна асабліва падкрасьлялася нязьменнасьць ужо даўно абвешчанага партыяй тэзісу пра „вялікадзяржаўны расейскі шавінізм як галоўную небясьпеку на дадзеным этапе", у вадрознасьць дый простую супрацьлежнасьць да рэзалюцыі незадоўга перад тым адбытага XIII зьезду Камуністычнае Партыі Беларусі, дзе ў вадмену гэнага тэзісу выстаўлялася палажэньне пра „беларускі нацыянал-дэмакратызм як галоўную небясьпеку". І наіўныя энтузіястыя, пра якіх згадвалася, з новай надзеяй падхапілі словы „правадыра" ды ўжо прадракалі блізкі „адбой", ці, у кажным разе, зварот у „змаганьні зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам" — нейкае прызнаньне кампартыяй Беларусі свае памылкі ў пытаньні пра „галоўную небясьпеку", згортаньне „антынацдэмаўскае кампаніі" з магчымым нат пералучэньнем яе ў супрацьлежную кампанію супраць „расейскага вялікадзяржаўніцтва", як запраўднага вінавайцу ўсіх перасьледаў „мясцовых нацыяналаў", „нацдэмаў".

Аднак кампартыя Беларусі не сьпяшалася „прызнаваць памылкі", і хоць усё-ж урэшце й прызнала яе, але толькі ўжо ў кастрычніку, дый тады першы сакратар ейнага ЦК Гей аўтарытэтна растлумачыў, што тэзіс пра вялікадзяржаўны шавінізм як галоўную небясьпеку мае значаньне для большае памысьнасьці змаганьня зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам, інакш кажучы, фактычна гэтым чыста-тэарэтычным тэзісам зручней было прыхоўваць практычна праводжаную расправу з „нацдэмамі". І расправа гэтая ня толькі ня „згорталася", а пачынала з новай сілай разгортацца якраз у часе працы XVI зьезду партыі: у канцы чырвеня ў Менску пракацілася другая хваля арыштаў „нацдэмаў", што ахапіла шырэйшае й рэпрэзэнтыўнейшае кола асобаў супраць першае лютаўскае хвалі. „Аптымістых", праўда, гэта яшчэ ня пераканала: зьезд яшчэ ня скончыўся, „на месцах" заўсёды астаюцца ў праводжаньні назначаных „цэнтрам" паваротаў, вось адно крышку цярплівосьці... Аднак па сканчэньні XVI зьезду, у канцы ліпеня, масавыя арышты „нацдэмаў" сталіся ледзь ня штодзённаю (дакладней — штаночнаю) зьяваю ў Менску, а ў жнівені перакінулася яна й у правінцыю.

У чырвеньскую хвалю арыштаў трапілі ўжо бадай усе выдатныя „нацдэмы": Аляксандар Цьвікевіч, калішні прэм'р ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, гісторык, рээмігрант; ягоны брат, Іван, таксама рээмігрант, Вацлаў Ластоўскі, таксама адзін з былых прэм'ераў ураду БНР, гісторык, пісьменьнік, паэта (аднак даўно ўжо закінуў літаратурную творчасьць); Язэп Лёсік, адзін з былых прэзыдэнтаў („маршалак") Рады БНР, пісьменьнік і крытык (ад пачатку 20-ых гадоў закінуў таксама літаратуру ды засярэдзіўся вылучна на мовазедзе, аўтар колькіх падручнікаў граматыкі беларускае мовы); Сьцяпан Некрашэвіч, мовавед, — называючы адно найвыдатнейшых. Трапіла нат колькі выдатных партыйных фігураў БССР, як былы нарком (міністар) земляробства БССР Зьмітро Прышчэпаў, былы нарком асьветы Антон Баліцкі, Алесь Адамовіч, якія займаў шэраг вышэйшых партыйных і савецкіх пасадаў; наагул-жа партыйцаў сярод усіх арыштаваных „нацдэмаў" быў вельмі нязначны працэнт.

Некрашэвіч, Лёсік, Ластоўскі былі акадэмікамі Беларускае Акадэміі Навукаў, Ластоўскі быў ейным неадменным сакратаром. Зь літаратараў у чырвенскую хвалю трапілі паэта (а таксама й вучоны, географ і геалёг) Міхайла Грамыка зь літаратурнае арганізацыі „Полымя", Уладыслаў Дзяржынскі, літаратурны крытык, блізкі да тае-ж арганізацыі. Зь літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Узвышша" першым быў арыштаваны — у першых дваццатых датах ліпеня — Уладзімер Жылка. Хворага на сухоты паэту ўзялі проста з ложка, з тэмпэратураю. Але Жылка быў эмігрантам із Захаду, былым беларускім эсэрам-баявіком, адным з галоўных гэрояў сэнсацыйнае тады „выкрывальніцкае" дыфамацыйнае паэмы Андрэя Аляксандровіча „Цені на сонцы", блізу ўсе гэроі якое былі ўжо арыштаваныя, дык „аптымістыя" яшчэ пару дзён жылі, хоць усё меншай ужо, пэўнасьцяй, што хіба досыць будзе й яго аднаго ад „Узвышша" *

Але 24 ліпеня былі арыштаваныя й шэсьць іншых узвышэнцаў, без падобнае да Жылкавае „контррэвалюцыйнае мінуўшчыны", ня згадваных і ў Аляксандровічавых „Ценях на сонцы": Уладзімер Дубоўка, Язэп Пушча, Адам Бабарэка, Антон Адамовіч, Фэлікс Купцэвіч і Васіль Шашалевіч.

Адначасна з арыштам узвышэнцаў, тае самае начы з 24 на 25 ліпеня 1930 году былі ўзятыя з арганізацыі „Полымя", наверх на арыштаваных ужо Грамыку й Дзяржынскага, паэта яшчэ ад часоў „Нашае Нівы" Алесь Гурло, з тыхжа часоў паэта, драматург, грамадзкі дзеяч Язэп Дыла (адзін з найбольш практыкаваных ім псэўданімаў Назар Бываеўскі), драматург і актор Алесь Ляжневіч, крытык і лексыкограф Мікола Байкоў, а таксама быў прывезены із Смаленску паэта Алесь Дудар, як крытык знаны пад псэўданімам Тодар Глыбоцкі.**

Нат зь „Беларускае Асацыяцыі Пралетарскіх Пісьменьнікаў" — БелАП-у, што тымі часамі прызнавалася за „апору партыі ў беларускай літаратуры", арыштавалі двух: маладога празаіка Сымона Хурсіка, не абцяжанага ані якойнебудзь „контррэвалюцыйнай мінуўшчынай", ані хоць-якой апазыцыйнасьцяй да савецкае ўлады наагул, ды празаіка, а найбольш крытыка Алеся Гародню (запраўднае прозьвішча Функ). Гэты, між іншага, з паходжаньня барон, быў, зрэшты, арыштаваны ў крышку асаблівай сувязі — за „здраду дзяржаўнае таямніцы", якая выражалася ў тым, што ён расшыфраваў сябе як сакрэтнага агента ГПУ перад некаторымі з арыштаваных. Гэтак, адных толькі літаратараў зь імёнамі было ўзята каля двух дзесяткоў; лік-жа ўсіх арыштаваных „нацдэмаў" сягаў ужо колькісот.

Усіх арыштаваных „нацдэмаў" ГПУ вінавaціла ў прыналежнасьці да нелегальнае контррэвалюцыйнае арганізацыі „Саюз Вызваленьня Беларусі" (скарочана СВБ). Ніхто ніколі ня чуў пра гэткую арганізацыю, і можна было адно здагадвацца, што гэта хвабрыкаваная арганізацыя на ўзор украінскае „Супалкі Вызваленьня Украіны", пра працэс над якою ў сакавіку 1930 году мы згадвалі. ГПУ не парупілася нат выдумаць нейкага больш арыгінальнага назову для арганізацыі, хвабрыкаванай ім на Беларусі. Арыштаваным літаратарам уся хвабрыкаванасьць гэтае арганізацыі рабілася яшчэ больш відавочнай, калі яны даведаліся із стаўляных ім абвінавачаньняў, што мелі належаць да „літаратурнае сэкцыі" гэтае быццам арганізацыі — выразнай бо мадэляй тут была справа ўкраінскага СВУ, на працэсе якога таксама фігуравала „літаратурная сэкцыя" прадстаўленая паэтам Міхайлам Іўчанкам.

Аднак ГПУ Беларусі, відавочна, ня мела досыць арыштаваных, каб запоўніць іншыя сэкцыі хвабрыкаванай ім арганізацыі, і вось, прыкладам, Адам Бабарэка быў прызначаны ў „сэкцыю моладзі", хоць ягоная дзейнасьць заўсёды была чыста літаратурнаю, дый быў ён векам куды старэйшы ды з куды большым пісьменьніцкім стажам, як некаторыя із запраўднае моладзі й векам і стажам, прызначаныя ў „літаратурную сэкцыю". Паэта Нічыпар Чарнушэвіч быў упісаны ў страшную „тэрарыстычную сэкцыю", што выдавалася проста пародыяй для кажнага, хто хоць з выгляду знаў яго. Былі спробы ўпісаць у гэтую сэкцыю й паэтаў Дубоўку й Пушчу, відавочна, на аснове заклікаў у іхных вершах, якія можна было тлумачыць як заклікі да тэрору, але гэтыя спробы чамусьці былі пакінутыя.

Некаторыя із сьледчых ГПУ нат не стараліся хаваць ад арыштаваных на допытах хвабрыкаванасьці ўсяе справы ды прапанавалі ім тую ці іншую ролю ў ёй у імя „змаганьня з нацыянал-дэмакратызмам" Некаторыя з арыштаваных, асабліва старэйшыя векам і абцяжаныя „контррэвалюцыйнай мінуўшчынай", пачалі супрацоўнічаць із сьледзтвам, і іхныя хвабрыкаваныя „паказаньні" дапамагалі будаваць справу.

Напрыканцы лістапада 1930 году ў друку ўпяршыню было паведамлена, што вядзецца „сьледзтва ў справе выкрытае ГПУ Беларусі контррэвалюцыйнае арганізацыі беларускіх нацдэмаў". Аднак, неўзабаве ў ходзе гэтага сьледзтва выявілася, як кажуць, няўвязка, пра якую даведаліся паступова й бальшыня падсьледных: два зь іх, Ігнат Краскоўскі й Сьцяпан Некрашэвіч (абодвы, дарэчы, гэроі паэмы Андрэя Аляксандровіча „Цені на сонцы") адначасна далі „паказаньні" пра сябе, як пра найвышэйшых узначальнікаў гэтае нацдэмаўскае арганізацыі, прычым у паказаньнях Некрашэвіча яна звалася „Саюзам Адраджэньня Беларусі" — крышку лагаднейшы й арыгінальнейшы назоў, як скапіяваны з украінскага СВУ „Саюз Вызваленьня Беларусі" ў паказаньнях Краскоўскага ды іншых.

Ніводзін з гэтых узначальнікаў, а галоўнае — ніводзін зь іхных сьледчых, што дамагаліся гэных паказаньняў (найбольш упіраўся адзін зь іх) не хацелі даць пяршынства другому. Мясцовае начальства само не знайшло магчымым зрабіць выбару ды зьвярнулася ў Маскву. Прысланы адтуль адмысловы ўпаўнаважаны, на прозьвішча Аргаў, адкінуў абедзьве кандыдатуры прэтэндэнтаў на ўзначальнікаў арганізацыі як фігуры недаволі эфэктныя й рэпрэзэнтацыйныя ды ў шуканьні больш адпаведных быў спыніўся на гэткай, бясспрэчна, зорцы першае вялічыні, як сам прызнаны „прарок беларускага нацыянальнага адраджэньня", а таксама й „галоўны натхняльнік беларускага нацыянал-дэмакратызму" Янка Купала.

Зусім натуральна, што Купала цяжка перажыў назіраную ім расправу зь беларускімі нацыянальнымі й культурнымі працаўнікамі. Яшчэ ў 1929 годзе Максім Гарэцкі, які датуль меў вялікі ўплыў на Купалу, зьвярнуўся да яго й Коласа з прапановаю выступіць публічна й заняць становішча супраць руйнаваньня беларускае нацыянальнае культуры, што было запраўднай мэтай усяе тае кампаніі. Максім Гарэцкі нат прапанаваў ім ня спыніцца перад дэманстрацыйным адмаўленьнем ад тытулу „народнага паэты", афіцыйна наданага ім (Купалу ў 1925, а Коласу ў 1926 годзе). Колас, заўсёды больш апартуністычны, хоць і не пярэчыў, але й унікаў канкрэтнага адказу на прапанову. Купала-ж адразу гатовы быў згадзіцца, нат з энтузіязмам, але ягоная жонка, як казалі, угаварыла яго адмовіцца.

Пасьля гэтага Максім Гарэцкі парваў усе асабістыя дачыненьні з абодвымі „народнымі паэтамі", дэманстрацыйна адаслаў ім усе кніжкі зь іхнымі аўтографамі й прысьвятамі яму ды іншыя падобныя знакі ўвагі. На адзначаным ужо ў часе масавых арыштаў „нацдэмаў" у 1930 годзе 25-гадовым юбілеі творчасьці Янкі Купалы юбіляр мусіў выслухаць пра сваю „ганебную мінуўшчыну" ў дакладзе аднаго з найбольшых грамілаў „нацдэмаў" Лукаша Бэндэ, але прамаўчаў усю тую ўрачыстасьць і толькі пасьля падзякаваў у друку, у часапісе „Полымя", усім, хто прывітаў яго ў сувязі зь юбілеем. Увесь гэты час Купала блізу нічога ня пісаў.

На распараджэньне Аргава Купалу арыштавалі, але пры гэтым ён спрабаваў скончыць самагубствам спосабам „гаракіры". Вестка пра гэтую Купалаву спробу самагубства борздa пашырылася, трапіўшы аж на Захад (у тым часе ў Менску быў яшчэ консулят Польскае дзяржавы). Казалі, што сам Сталін загадаў за ўсякую цану вылячыць паэту, пакінуць усялякія спробы прыцягнуць яго да нейкае крымінальнае справы ды паставіць яго й ягоную творчасьць „на службу сацыялізму".

Пасьля няўдачы з Купалам, маскоўскі пасланец Аргаў ня спыніў аднак шуканьня эфэктнае й рэпрэзэнтацыйнае арганізацыі беларускіх „нацдэмаў" — „Саюзу Вызваленьня Беларусі". Цяпер на гэтую ролю быў выбраны прафэсар Усевалад Ігнатоўскі, гісторык, першы Прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навукаў, ад некаторага часу таксама, як казалі тады, „ прапрацоўваны" ў друку ў сувязі зь белрускім нацыянал-дэмакратызмам. Па выступленьні ў друку з традыцыйным у падобных выпадках каятным лістом прафэсар Ігнатоўскі быў зьняты з пасады Прэзыдэнта Беларускае Акадэміі Навукаў. Паводля аднае вэрсыі, нехта папярэдзіў прафэсара пра заплянаваны арышт яго, паводля другое — Аргаў выклікаў яго, запрапанаваў яму ролю ўзначальніка СВБ, але, на ягоную просьбу, даў яму магчымасьць абдумаць гэтую прапанову, адпусьціўшы дадому бяз арышту. Так ці йнакш, але ў начы на 20 лютага 1931 году прафэсар Ігнатоўскі застрэліўся ў сябе на кватэры.

Ці то пад дзеяньнем гэтых выпадкаў з Купалам ды Ігнатоўскім, пра якія арыштаваныя даведваліся рознымі шляхамі ў вабставінах не дасканальнага яшчэ ў тых часох кантролю, ці то пад ціскам малодшых арыштаваных, якія ня йшлі на ніякае супрацоўніцтва із сьледзтвам, бадай усе із старэйшых пaадмаўляліся ад падаваных імі схвабрыкаваных паказаньняў, а адзін зь іх, што быў навет кандыдатам на ўзначальніка арганізацыі, Сьцяпан Некрашэвіч, спрабаваў нат таксама скончыць самагубствам, кінуўшыся ў турме із сходаў, але толькі зламаў сабе нагу.

Пасьля ўсяго гэтага Аргава адклікалі ў Маскву, начальніка ГПУ Беларусі Рапапорта перамясьцілі на Урал, у Сьвярдлоўск, і ўсю справу прапусьцілі праз калегію ОГПУ СССР безь якога-небудзь публічнага працэсу. Пастановамі гэтае калегіі блізу ўсе арыштаваныя „нацдэмы" былі адміністрацыйна парассыпаныя этапам праз Маскву ў розныя мясцовасьці ў раёнах Волгі й Уралу на гэтак званую „адміністрацыйную ссылку з прымацаваньнем" тэрмінам на 5 гадоў. Толькі пяцёра з арыштаваных — чатыры высакапастаўленыя партыйцы — былы нарком земляробства Прышчэпаў, былы нарком асьветы Баліцкі, Алесь Адамовіч ды Ільлючонак, і пяты — беспартыйны акадэмік Гаўрыла Гарэцкі, брат Максіма Гарэцкага, дасталі былі па 5 гадоў канцэнтрацыйнага лягеру. Колькі арыштаваных, у тым ліку пісьменьнікі зь беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Узвышша" Шашалевіч і Купцэвіч, а таксама з арганізацыі „Полымя" Гурло, Дудар і Байкоў, археалёг Сяргей Дубінскі ды яшчэ з пару іншых, былі выпушчаныя на волю. Паэта ўзвышэнец Уладзімер Жылка, выпушчаны на волю яшчэ ў часе сьледзтва, быў аднак у часе ліквідацыі справы адміністрацыйна высланы, як і бальшыня іншых, на „адміністрацыйную ссылку з прымацаваньнем" у горад Уржум, толькі з правам ехаць туды самому, а не этапам, і там памёр у 1933 годзе.

Гэтак скончылася першая расправа зь белрускімі нацыянальнымі й культурнымі працаўнікамі, празванымі „нацдэмамі", у 1930-1931 гадох. За тры гады, у 1933-34 гадох прайшла больш суровая другая расправа з гэткімі-ж асобамі, а яшчэ за тры, у 1936-37 гадох, у часох ведамае яжоўшчыны — і трэйцяя, найсуравейшая масавая расправа.

---

* Паэма Андрэя Аляксандровіча „Цені на сонцы", першая частка якое была зьмешчаная ў № 1 часапісу „Полымя" за 1928 г., а другая частка — у № 5-6 часапісу „Маладняк" за 1929 год, цэласьць выйшла асобным выданьнем у 1930 годзе, якраз перад арыштамі „нацдэмаў" — „выкрывала", выразна на матарыялах з ГПУ, як „нацдэмаў" з „контррэвалюцыйнай мінуўшчынай" згаданага ўжо Сьцяпана Некрашэвіча, доктара Івана Сераду, першага прэзыдэнта Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, Ігната Краскоўскага, аднаго зь дзеячоў тае-ж Рэспублікі, эмігранта із Захаду, — усе яны ўжо былі арыштаваныя ў чырвені 1930 г. і некаторых іншых, у тым ліку й Уладзімера Жылку.

** У Смаленску Дудар-Глыбоцкі быў у лёгкай „ссылцы" за верш „Пасеклі наш край", перасланы ў Заходнюю Беларусь і выдрукаваны ў Вільні ў часапісе „Беларуская культура".

## НА СЁЛЕТНЯЙ АЛІМПІЯДЗЕ У МАСКВЕ

**На сёлетняй Алімпіядзе ў Маскве** ў складзе каманды Савецкага Саюзу былі 43 прадстаўнікі Беларусі (блізу ўдвая больш як на XXI-й Алімпіядзе ў Мантрэалі). Яны ўзялі ўдзел у 16 відах спартовых змаганьняў з 24, што ўваходзілі ў праграму, заваявалі 34 мэдалі, у тым ліку 15 залатых, 10 сярэбраных і 9 бронзавых. Пішучы пра гэта, газэта „Голас Радзімы" ( № 41, 16. X. 80) падала выказваньне Івана Груцька, намесьніка старшыні Камітэту да справаў фізычнай культуры й спорту БССР: „Для параўнаньня адзначу, што па колькасьці заваяваных мэдалёў група беларускіх спартсмэнаў абышла зборныя каманды такіх краінаў, як Ангельшчына, Францыя, Гішпанія й іншыя".

## З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ

**Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі**

У сувязі зь непаразуменьнямі, што паўсталі ў парахвіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайлэнд Парку, Н. Дж., 4-га травеня сёлета быў скліканы надзвычайны агульны сход парахвіі, які прыняў рэзалюцыю прасіць Архіепіскапа БАПЦ Мікалая пераняць часова парахвію пад ягоную духоўную апеку. Лістом зь 9-га травеня Архіепіскап Мікалай узяў парахвію пад сваю апеку да часу высьвятленьня непаразуменьняў ды загадаў аднавіць багаслужбы ў царкве.

Калі захады нашай парахвіі ды іншых парахвіяў БАПЦ у ЗША й Канадзе перад Мітрапалітам БАПЦ Андрэем склікаць паседжаньне Рады БАПЦ для разгляду канфлікту не далі вынікаў і калі парахвія апынулася супраць свае волі ў сьвецкім судзе, Архіепіскап БАПЦ Мікалай, на просьбу надзвычайнага агульнага сходу парахвіі, праведзенага 21-га верасьня, узяў нашую парахвію ў сваю Епархію да часу скліканьня Сабору БАПЦ.

Апошні агульны сход таксама выказаў падтрыманьне рэзалюцыяў канфэрэнцыі старшыняў парахвіяльных радаў і прадстаўнікоў парахвіяў БАПЦ у ЗША й Канадзе, што адбылася 30-га жнівеня сёлета ў Кліўленьдзе ў штаце Агаё.

**Парахвіяльная Рада**

**Дэтройт, Мічыгэн**

У парахвіі Сьвятога Духа ў Дэтройце адбыўся 12-га кастрычніка 1980 г. надзвычайны агульны сход парахвіі для разгляду стану ў БАПЦ. Пазнаёміўшыся з падзеямі, што прывялі да непаразуменьняў у царкоўным жыцьці, сход пастанавіў прасіць Архіепіскапа БАПЦ Мікалая прыняць парахвію Сьвятога Духа ў ягоную Епархію. Далей сход выказаў аднагалосна падтрыманьне дэклярацыі, прынятае канфэрэнцыяй старшыняў парахвіяльных радаў і прадстаўнікоў парахвіяў БАПЦ у ЗША й Канадзе, што адбылася ў Кліўленьдзе 30-га жнівеня 1980 году.

**Парафіяльная Рада**

## У ШКОЛАХ НЬЮ ДЖЭРЗІ

У Трэнтане, сталіцы штату Нью Джэрзі, штатавы Аддзел Асьветы правёў 26-га кастрычніка нараду, у якой узяў удзел др. Вітаўт Кіпель, старшыня штатавае Этнічнае Рады. Нарада была скліканая ў сувязі з заплянаваным уводам у сярэднія школы штату сэрыі лекцыяў пад агульным назовам „Глябальная культурная камунікацыя". Сэрыя гэтая прадбачае гэткія прадметы, як „Праблемы голаду ў сьвеце", „Этнічныя групы Амэрыкі", „Літаратурная камунікацыя" й г. д.

Выступленьне д-ра Кіпеля было на тэму „Роля этнічных групаў і іхных рэсурсаў у выкладаньні новых прадметаў". На прыкладзе беларускае групы др. Кіпель падкрэсьліў, што вынікі гэткіх лекцыяў і праграмаў будуць значна лепшыя, калі будуць прыцягнутыя адпаведныя прафэсійныя сілы з асяродзьдзя нацыянальных групаў. Штатавы Аддзел Асьветы з гэткім паглядам цалком пагаджаецца й спадзяецца на супрацоўніцтва з Этнічнай Радай.

## „ПЕРАКЛАДЫ" ТВОРАЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

трыбуналу, які мог на кажнага скласьці данос, палохае Васілевіча, і ён у канцы аповесьці робіць выснову: „Пакуль адных будзе цешыць подлая надзея выплысьці наверх, у другіх будзе жыць страх. Будзе таіцца, хавацца, каб калінебудзь узяць верх. Занадта глыбока ўвагнана ў сьвядомасьць многіх ганебная нявольніцкая мараль: як-бы чаго ня выйшла. І калі здарыцца, што дзе-небудзь сьлязьмі абальецца праўда, хіба хто-колечы не памяркуе: а ці ня лепш пераседзець, перамаўчаць, перастаяць за вуглом, адвярнуцца. А яны, гэта Васілевіч пра гэткіх як Гарбацюк, будуць пільнаваць спрыяльны для сябе момант, вопыт у іх багаты".

Ізноў-жа, усё гэта прапушчана ў расейскім перакладзе. У гэткім вось пакалечаным перакладніцкай палітыкай выглядае йдзе Васіль Быкаў у шырокі сьвет, застаючыся тымчасам праўдзівым і несхвальшаваным толькі ў беларускім арыгінале.

**Алесь Васілеўскі**

---

**Congress of the United States**
**House of Representatives**
**Washington, D.C. 20515**

For: THE 30TH ANNIVERSARY OF THE BYELORUSSIAN ASSOCIATION IN OHIO

By: CONGRESSWOMAN MARY ROSE OAKAR

WHEREAS, Congress is especially pleased to note the 30th Anniversary of the Byelorussian Association in Ohio being celebrated at the Byelorussian Community Center, 11022 Webster Road, Strongsville, Ohio on Sunday, August 31, 1980; and

WHEREAS, The founding of this organization has kept alive the beautiful heritage and culture of Americans of the Byelorussian decent in Ohio; and

WHEREAS, The members of the Byelorussian Association in Ohio work together to achieve their goal of freedom for Byelorussians from Communist oppression; now, therefore

BE IT RESOLVED, That the Congress of the United States congratulates the Byelorussian Association of Ohio on their 30th Anniversary and joins with them in their quest of a free independent Byelorussia.

Mary Rose Oakar
MARY ROSE OAKAR
Member of Congress
20th District - Ohio

Вышэй зьмешчанай праклямацыяй, запрапанаванай Кангрэсмэнкай Мэры Роўз Оўкэр, Кангрэс Задзіночаных Штатаў вітае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Кліўленьдзе з 30-мі ўгодкамі ягонага існаваньня і далучаецца да ягоных імкненьняў да здабыцьця вольнай і незалежнай Беларусі.

---

*ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА*
*АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ*
*і*
*РЭДКАЛЕГІЯ „БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ"*
*вітаюць сваіх сяброўак і сябраў*
*і ўсё беларускае грамадзтва з*
КАЛЯДНІМІ СЬВЯТАМІ
Й
НОВЫМ 1981 ГОДАМ!

---

*УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*
*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*
**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1981 ГОДУ**
*АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ*
*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*

---

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з
**КАЛЯДНІМІ СЬВЯТАМІ**
**Й**
**НОВЫМ 1981 ГОДАМ!**

---

**СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ ДЖЭРЗІ**
**вітае з КАЛЯДАМІ ўсіх сваіх Сяброў, Прыхільнікаў і ўсіх Працаўнікоў на беларускай ніве**
**ды жадае ім**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ**
**У АМЭРЫЦЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1981 ГОДУ!**

---

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ**
**жадае сваім Сябром і Прыхільнікам**
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ
## ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1981 ГОДУ
**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДАР*
*АЗАРКА МАРЫЯ, ЯНКА й ІРЭНА*
*АЗАРКА НОНА й ЮРКА*
*АКУЛА КАСТУСЬ зь СЯМ'ЁЙ*
*АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ*
*БАЛКОЎСКІ ЗОФІЯ, АЛЯКСЕЙ і ЯНКА*
*БАКУНОВІЧ МІРАСЛАВА й МІТРАФАН і ДЗЕЦІ ЖОРЖ, ПЁТРА й ЛАРЫСА*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН*
*БЕЛАРУСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ „ПАГОНЯ"*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА й АНТОН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*ВОЙТАНКА АННА, МІКАЛАЙ і ЛЕАНІД*
*ГАВЕНЧЫК ЯНКА зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р ГРАБІНСКІ БАЛЕСЛАЎ*
*ГРЫЦАЙ ЛІЗА й ЯКАЎ і ДЗЕЦІ*
*ГРЭБЕНЬ МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ і РАГНЕДА*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ДУБЯГА ЗОФІЯ, ЖЭНЯ, АЛЕГ, ЮЛЬЯН і ТАМАШ*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІ АННА й НІКОДЭМ зь СЯМ'ЁЙ*
*ЗАМОРСКІ ВЕРА, МІКАЛАЙ, ТАНЯ й НІНА*
*Д-р ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ЛЮБА, ВІТАЛЬ, АЎГЕН, МАРГАРЫТА й ЮЛЬЯ*
*КАЖУРА МАРЫЯ, ПЁТРА й АЛЬГЕРД*
*Інж. КАЛОША КАСТАНЦІН*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА*
*КАРАНЕЎСКАЯ АЎГЕНЯ, СЬВЯТАСЛАЎ і МАРЫЛЬКА*
*КАРАНЕЎСКАЯ СТЭФА, ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*Д-р КІПЕЛЬ ЗОРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*КЛЯЙНБАХ ЛЁЛЯ, КІТ, ЭМІЛЯ-АННА і ДЖАШ*
*КУНЦЭВІЧ МІКОЛА*
*Д-р МАЛЕЦКІ ЯЗЭП зь СЯМ'ЁЙ*
*МАРКЕВІЧ МАРЫЯ, АНТОН і ДЗЕЦІ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, ЯДЗЯ, КАРНЭЛЯ й ВІКТАР*
*НАРУШЭВІЧ ВОЛЬГА, СТАНІСЛАЎ і СЫН ЮРКА*
*НЕПЕІН НАДЗЯ й АЛЯКСАНДАР*
*НІКАН ЛЕНА й МІКОЛА*
*НОРЫК ЭЛЕАНОРА, ЛЕАНІД зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р РАМУК, ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*СІЛЬВАНОВІЧ ВОЛЬГА, МІХАСЬ, НІНА, АЛЯКСАНДАР, АНТОН, ЛЕНА, ІРЭНА й АНДРЭЙ*
*СКАБЕЙ МІКАЛАЙ*
*СОКАЛ ЭЛЬЗА й ЯНКА*
*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і ЛЕЎ*
*СТАГАНОВІЧ КРЫСТЫНА й ЮРКА*
*СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА й РАІСА*
*Інж. СТАНКЕВІЧ ЮРКА й СЯМ'Я*
*СТОМА НІНА й ВАСІЛЬ*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА й АДОЛЬ*
*СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА й МІХАСЬ*
*ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН*
*ЧАРНЭЦКІ АЛЯКСАНДРА й ЯНКА*
*ХАНЯЎКА МАРЫЯ, ЧАСЛАЎ і СЯМ'Я*

*Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч*



**Удзел Беларусаў у адзначэньні Тыдня Паняволеных Народаў у Вашынгтоне. Зьмешчаная гэтта фатаграфія агенцтва „Спотлайт" (сп-ні Доны Макграт) была надрукаваная ў некалькіх газэтах. Дочкі інж. Васіля Мельяновіча трымаюць нацыянальны сьцяг.**

## ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ БАЗА Ў НЬЮ ЁРКУ

**Тыдзень Паняволеных Народаў**

Сёлета Тыдзень Паняволеных Народаў адзначаўся ў Нью Ёрку ад 13-га да 20-га ліпеня. У нядзелю 13-га была адслужаная багаслужба за паняволеныя народы ў катэдры сьв. Патрыка. Пасьля службы адбыўся паход у Цэнтральны Парк, дзе была праведзеная дэманстрацыя. Ад Беларусаў бралі ўдзел у праграме першага дня Тыдня сябры Беларускага Кангрэсавага Камітэту. У нядзелю-ж 20-га ліпеня на заключнай маніфэстацыі ля Статуі Свабоды беларускую групу ачолілі старшыня Галоўнае Управы БАЗА Антон Шукелайць і старшыня ньюёркаўскага аддзелу БАЗА Мікола Кунцэвіч.

**Супольным фронтам**

28-го верасьня сёлета мгр. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА, і мгр. Раіса Станкевіч, рэфэрэнтка вонкавых дачыненьняў ГУ БАЗА, узялі ўдзел у банкеце, зладжаным Сусьветным Фронтам Антыкамуністычнае Акцыі (СФАА). Заданьнем банкету было ўшанаваць працу ньюёркаўскага Камітэту Паняволеных Народаў. Старшыня СФАА др. Марыя Гарсыя-Фансэка з Кубы ў сваёй прамове падчыркнула важнасьць супрацоўніцтва ўсіх антыкамуністычных арганізацыяў. Старшыня Камітэту Паняволеных Народаў сп. Горс А. Уліх у сваім выступленьні на тэму супольнае дзейнасьці згадаў таксама Беларусь ды прадставіў аўдыторыі, сярод іншых нацыянальных дэлегацыяў, і беларускіх прадстаўнікоў.

**Славацкі Культурны Вечар**

У залі чэхаславацкага рэстарану „Прага" ў Нью Ёрку адбыўся 5-га кастрычніка Славацкі Вечар. На Вечары праф. Мірак Яворнік прачытаў даклад пра ўклад Славэнцаў у амэрыканскую культуру. Вечар быў наладжаны Славацкім Культурным Цэнтрам як пачатак цясьнейшае сувязі паміж славянскімі групамі.

Ад арганізацыі „Тыдзень Славянскіх Культураў" узялі ўдзел у гэтым Вечары сп. С. Крэгер (Славэнец), М. Т. Друцкая (з роду князёў Друцкіх, Расейка) і Раіса Станкевіч (Беларуска).

**На ўгодках Кітайскае Дэмакратычнае Рэспублікі**

10-га кастрычніка Камітэт Амэрыканцаў за Вызваленьне Паняволеных народаў (КАВПН, старшыня — др. Валентына Калынік) быў запрошаны на ўрачыстасьць адзначэньня ў Шэратон Цэнтры 69-ых угодкаў ад стварэньня Кітайскае Дэмакратычнае Рэспублікі (Фармоза). Заступніца старшыні КАВПН Раіса Станкевіч узяла ўдзел у прыняцьці, на якім былі прамовы на тэму дня ды ўручэньне ўзнагародаў заслужаным асобам.

**Раіса Станкевіч**

## ПРА БЕЛАРУСЬ НА МАДРЫДЗКУЮ КАНФЭРЭНЦЫЮ

Дзьве арганізацыі — Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне й Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі — выслалі 20 кастрычніка сёлета на рукі кангрэсмэна Дантэ Фасэла, старшыні амэрыканскае ўрадавае камісіі да справаў бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе, мэмарандум пра пагвалтаваньне правоў чалавека на Беларусі. Мэмарандум высланы ў сувязі з Мадрыдзкай канфэрэнцыяй 35-ёх дзяржаваў, у тым ліку ЗША, якія пачалі 11-га лістапада агляд працэсу ўжыцьцяўляньня Гэльсынкаўскіх пагадненьняў, падпісаных у 1975 годзе. Гэта другая гэткая канфэрэнцыя. Першая адбылася ў Белградзе ў 1977-78 гадох.

У мэмарандуме на 9-ёх старонках машынапісу апісваюцца канкрэтныя выпадкі пагвалтаваньня правоў на Беларусі. На ўступе прыгадваецца падобны мэмарандум з 1977 году, дзе казалася, што савецкая Беларусь, не зважаючы на факт прызнаньня ейнае фармальнае сувэрэннасьці іншымі дзяржавамі, ня мае ў сваёй сталіцы ані дыпляматычных місіяў іншых дзяржаваў ані замежных журналістых. Абмежаныя культурныя сувязі з вонкавым сьветам праводзяцца толькі праз Маскву. У гэткай ізаляванасьці на Беларусі гвалтуюцца правы чалавека ды праводзіцца народагубная палітыка русыфікацыі наўсуперак шэрагу міжнародных канвэнцыяў, а цяпер і наўсуперак гэльсынкаўскаму Заключнаму Акту.

У новым мэмарандуме называюцца прозьвішчы канкрэтных асобаў, што ўцярпелі ад перасьледу за іхныя палітычныя ці рэлігійныя перакананьні, або тых, каго ня выпушчаюць да сваякоў у Ізраіль ці ЗША: Міхал Кукабака, Аўген Бузіньнікаў, Вячаслаў Зайцаў, Іван Карэйша, Аляксандар Круцько, Сьвятлана Місюк, Леў Аўсішчар, Рыгор Хес, Алег Чарапахін, Аляксандра Бэргер, Яўхім Собаль.

Копіі мэмарандуму перасланыя таксама або асабіста перададзеныя іншым сябром амэрыканскае ўрадавае дэлегацыі ў Мадрыдзе ды ў органы друку.

## У СЭНАЦКІМ ВЫДАНЬНІ ПРА БЕЛАРУСЬ

У рапарце № 96-1016 Сэнату ЗША пра абыходжаньне з хрысьціянамі ў Савецкім Саюзе, датаваным 16.X. 1980 г., зьмешчаны ліст ад галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, падпісаны сакратаром Зорай Кіпель, да сэнатара Роджэра Джэпсана пра перасьлед рэлігіі на Беларусі: руйнаваньне й зачыняньне цэркваў, перашкоды ў папаўненьні прыходаў сьвятарамі, зьдзекі над веруючымі ды напорную актыўнасьць атэістычнае прапаганды.

Кангрэс, сказана ў Рапарце, спадзяецца, што Прэзыдэнт, дзеючы праз Дзяржаўнага Сакратара ды іншыя ўрадавыя органы, будзе надалей выказваць падтрыманьне справе ўжыцьцёўленьня Гэльсынкаўскіх пагадненьняў ды паведаміць Савецкаму Саюзу, што Задзіночаныя Штаты станоўка выказваюць сваю нязгоду з прычыны перасьледу хрысьціянаў і абмежаньня іхнага права на эміграцыю.

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

### ПЕРАД КАНГРЭСАВАЙ КАМІСІЯЙ ПРА БЕЛАРУСЬ

Прафэсар Квінсаўскага каледжу (адзін з каледжаў Ньюёркаўскага Гарадзкога Унівэрсытэту) Томас Бэрд выступаў 21 травеня сёлета із сьветчаньнем перад амэрыканскай урадавай Камісіяй да справаў бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе. Камісія праводзіла слуханьні ў пытаньні ўжыцьцяўляньня Гэльсынкаўскіх пагадненьняў.

Праф. Бэрд сьветчыў пра палажэньне каталікоў у Савецкім Саюзе, а таксама пра агульны стан там правоў чалавека. Шмат увагі ў сваім выступленьні ён прысьвяціў Беларусі: гаварыў пра зьняволеньне Міхала Кукабакі й Вячаслава Зайцава, якія знаходзяцца цяпер адзін у турме, а другі ў псыхіятрычным шпіталі. Згадаў праф. Бэрд і пра дзейнасьць Камітэту Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі, што вядзе на Захадзе акцыю абароны паняволеных на Беларусі іншадумцаў.

Сьветчаньне праф. Томаса Бэрда зьмешчанае ў 14-ым томе амэрыканскага ўрадавага выданьня „Слуханьні перад Камісіяй да справаў бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе. 97-ты Кангрэс. Другая сэсія" (Вашынгтон, 1980, бб. 55-63).

Там-жа на б. 65-й, у статыстыцы цэркваў і веравызнаньняў у Савецкім Саюзе (статыстыка складзеная Кэстанскім Каледжам у Ангельшчыне ў верасьні 1979 году) пададзена, што на Беларусі дзейныя цяпер 65 рымакаталіцкіх парахвіяў, у якіх працуюць 65 сьвятароў.

**Я. З.**

### У ПРЭЗЫДЫЮМЕ РАДЫ БНР

19-га кастрычніка 1980 году Прэзыдыюм Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, выконваючы далей пастановы леташняе XVI-е Сэсіі Рады БНР, правёў у Нью Ёрку пашыранае паседжаньне, на якім былі разгледжаныя пытаньні арганізацыйнага характару. Шмат увагі было прысьвечана агляду сучаснага стану на Беларусі, росту выяваў іншадумства й нацыянальнага супраціву на Бацькаўшчыне, а таксама захадам дыпляматычнага парадку ў сувязі зь міжнароднымі нарадамі й канфэрэнцыямі, у тым ліку Мадрыдзкай канфэрэнцыяй 35-ёх дзяржаваў, што падпісалі Гэльсынкаўскія пагадненьні.

Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч выказаў упэўненасьць, што дзейнасьць Прэзыдыюму Рады БНР, як і сэктараў у паасобных краёх Захаду, ня толькі мае зразуменьне й падтрыманьне з боку ўрадаў заходніх дзяржаваў, але знаходзіць водгук і на Беларусі, узьдзейваючы гэтым на маральную сілу беларускіх патрыётаў ды іхную веру ў справядлівасьць справы абароны нацыянальных інтарэсаў беларускага народу.

### У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

У сыботу 18 кастрычніка тут адбыўся ўрачысты **сход з нагоды 40-ых угодкаў масавага забойства бальшавікамі польскіх палонных у Катыні.** Гэтая антысавецкая дэманстрацыя была наладжаная адмысловым камітэтам Польска-Амэрыканскага Кангрэсу. У склад камітэту ўвайшлі гэткія ведамыя асобы няпольскага паходжаньня, як мэр Лёс Анджэлесу Сэм Ёрты й актор Боб Гоўп. У праграме сходу выступалі прадстаўнікі ад прэзыдэнта Картэра й прэзыдэнцкага кандыдата Рэгана. Старшыня Арганізацыі Амэрыканцаў за Свабоду Паняволеных Народаў др. Альгерд Клейнот прадставіў сходу прысутных прадстаўнікоў паняволеных Савецкім Саюзам нацыянальнасьцяў, у тым ліку й прадстаўніка ад Беларусаў.

У нядзелю 19 кастрычніка ў парку імя Мак Артура ля помніка вугорскім змагаром за свабоду адбылася ўрачыстая **праграма, прысьвечаная 24-ым угодкам антысавецкага паўстаньня ў Вугоршчыне.** З прамовай выступіў кангрэсмэн Робэрт Дорнан, у якой даў агляд савецкае агрэсіі ў краёх Эўропы й Азіі, уключна з Кампучыяй (Камбоджа) і Афганістанам, дзе савецкае войска ўжывае атрутны газ.

Ад імя арганізацыі паняволеных Масквой народаў прамаўляў др. А. Клейнот, згадваючы й Беларусь, як паняволеную падсавецкую краіну. Прысутны на ўрачыстасьці быў і беларускі прадстаўнік, сябра гэтае арганізацыі.

**Н.**

## ВІКТАР ШВЭД У ЛЁНДАНЕ

Віктар Швэд, беларускі паэта з Польшчы, наведваючы Вялікабрытанію, згадзіўся на просьбу Беларусаў Лёндану зрабіць літаратурны вечар, які й адбыўся 19 кастрычніка ў доме сьв. Кірылы Тураўскага. Вестка пра сустрэчу зь Віктарам Швэдам выклікала сярод нашага грамадзтва вялікае зацікаўленьне, пра што сьветчыла запоўненая заля — апрача Беларусаў было тут цімала нашых прыяцеляў іншых нацыянальнасьцяў.

Адкрываючы вечар, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі сп. Я. Міхалюк прачулым словам прывітаў гасьця ды азнаёміў прысутных з працай сп. Швэда на беларускай літаратурнай ніве ў Польшчы.

Віктар Швэд нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Мора на Беласточчыне. Закончыў Акадэмію Палітычных Навукаў у Варшаве, аддзел журналістыкі, ды факультэт беларускай філялёгіі на Варшаўскім унівэрсытэце. Жыве ў Варшаве, дзе працуе рэдактарам у выдавецтве „Ксёнжка і Ведза", належыць да Саюзу польскіх пісьменьнікаў.

Шмат твораў Віктара Швэда зьмяшчалася й надлей зьмяшчаецца ў беластоцкай газэце „Ніва", органе Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства. Спад ягонага пяра выйшлі зборнікі вершаў: „Жыцьцёвыя сьцежкі" (Беласток, 1967 г.), „Дзяцінства прыстань" (Беласток, 1975 г.) і „Дружба" (Менск, 1979 год).

У сваіх прывітальных словах Віктар Швэд выказаў вялікае задавальненьне з таго, што ён пабачыў пры зьведваньні беларускае скарбніцы — Бібліятэкі й Музэю імя Скарыны, ён прыраўнаў скарбніцу гэтых беларускіх пэрлаў да Ноевага каўчэгу.

Даючы кароткі нарыс пра нацыянальныя мяншыні Польшчы, сп. Швэд зазначыў, што ў Польшчы міліён жыхароў належаць да нацыянальных мяншыняў. Чверць зь іх — Беларусы Беласточчыны. Ён паінфармаваў пра Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства, якое паўстала ў 1956 годзе, ды пра літаратурнае жыцьцё Беларусаў у Польшчы. Дзякуючы добрым умовам асьветы, сказаў ён, шмат якія маладыя таленты выдатна выявілі свае творчыя здольнасьці ды змаглі замацавацца на літаратурным полі.

Галоўная ўправа БГКТ у Беластоку, казаў прэлегент, выдае старанна апрацаваныя й абшырныя сваім зьместам беларускія календары. У 1980 годзе выйшаў з друку ўжо шосты літаратурны альманах „Белавежа" № 3 (першы літаратурны альманах, „Рунь", выйшаў у 1959 годзе; другі, „Мой родны кут", у 1963 г.; трэйці, „Белавежа" № 1, у 1965 г.; „Белавежа" № 2 у 1971 г.; „Літаратурная Беласточчына" у 1973 г.). Шмат літаратурных твораў чакаюць на друк і толькі дзеля нястачы матар'яльных сродкаў ня могуць быць выдадзеныя.

Віктар Швэд зазначыў, што падобных аўтарскіх спатканьняў у яго было ўжо панад тысячу — пераважна па вёсках і сёлах Беласточчыны.

Вершы чытаў грамадзкага характару („Я Беларус", „Беласточчына" ды шмат іншых), для моладзі („Не забывай", які канчаецца словамі: „Аб родным, дарагім, мой сыну, ў жыцьці заўсёды памятай. Народу, мовы і айчыны не забывай, не забывай!"). Вельмі разьвесяліў паэта ўсіх прысутных сваймі гумарыстычнымі творамі, вершамі для дзяцей, поўнымі народнага гумару. Кажным з прачытаных вершаў ён паказаў сябе як багатага спадкаёмца скарбаў зямлі Беласточчыны ды выклікаў у слухачоў шчырае пачуцьцё задаволенасьці, якое вылівалася ў гучных рытмічных воплесках.

Вясёлы вечар канчаўся песьнямі пад чарку віна й смачную закуску ў прыязнай атмасфэры. Назаўтрае ўраньні Віктар Швэд адляцеў у Варшаву.

**А. З.**

### ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР У МАНЧЭСТАРЫ

У нядзелю 12 кастрычніка 1980 г. беларуская грамада ў Манчэстары мела вялікую прыемнасьць гасьціць у сябе ведамага беларускага паэту й аднаго з арганізатараў беларускага жыцьця ў Польшчы сп. Віктара Швэда. У Беларускім Доме зыйшлася даволі лічная аўдыторыя, каб выслухаць даклад сп. В. Швэда. Старшыня аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі сп. Х. Кажаневіч прывітаў дарагога гасьця ад імя манчэстарскіх Беларусаў.

Прэлегент расказаў пра структуру арганізацыйнага жыцьця ў Польшчы, дзе, сказаў ён, Беларусаў налічваецца 250 тысячаў. У народных школах на Беласточчыне вывучаецца беларуская мова, як прадмет, існуюць там два беларускія ліцэі, а на Варшаўскім унівэрсытэце ёсьць аддзел беларускае філялёгіі, загадчыкам якога праф. А. Баршчэўскі. У Беластоку выходзіць беларуская тыднёвая газэта „Ніва" й дзіцячы часапіс „Зорка".

Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства, сказаў сп. Швэд, дастае ад польскага ўраду на сваю дзейнасьць паўміліёну злотаў і міліён злотаў на беларускае выдавецтва, дзякуючы чаму ёсьць магчымасьць і разьвіваць беларускае нацыянальнае жыцьцё.

Сп. Швэд чытаў свае вершы з выдадзенага зборніка і сказаў, што мае падрыхтаваны да выданьня новы зборнік паэзіі. Вершы чытаў рознага жанру. Шмат зь іх прысьвечаныя дзецям. Вершы для дзяцей, зазначыў паэта, найлепш удаюцца яму. Пішучы для дзяцей, ён імкнецца прышчапіць ім любасьць да краю й да бацькоўскае мовы.

У гонар гасьця адбылося прыняцьцё. У часе бяседы ўжо выявілася, што сп. Швэд, па заканчэньні беларускага ліцэю, скончыў у Варшаве факультэт замежнай службы, але на дыпляматычную працу ня трапіў; вывучаў таксама журналістыку й беларускую мову.

Цяпер сп. Швэд кіраўнік Беларускага Клюбу ў Варшаве. Ён таксама — сябра Саюзу польскіх пісьменьнікаў, (да якога належаць, апрача яго, яшчэ тры беларускія пісьменьнікі), што дае вялікія магчымасьці на замежныя падарожжы.

Ад імя ўсіх Беларусаў Манчэстару выказваю сп. Швэду вялікую падзяку ды жадаю як найбольшых удачаў на ніве беларускае літаратуры.

**М. Стаўпіскі**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**У кастрычніку 1980 году:**

**ЗША:**

| | |
|---|---|
| Б. Прытыцкі | $ 100.00 |
| П. Алекса | 50.00 |
| Др. Л. Трусэвіч | 50.00 |
| Др. М. Смаршчок | 40.00 |
| М. і В. М. | 25.00 |
| Інж. Л. Норык | 25.00 |
| А. Мацукевіч | 20.00 |
| Сп-ня Марыя Возьняк | 20.00 |
| П. Пікулік | 20.00 |
| С. Варабей | 20.00 |
| К. Мярляк | 20.00 |
| Сп-ня А. Савёнак | 20.00 |
| М. і М. К. | 20.00 |
| Мітрапаліт Андрэй Крыт | 15.00 |
| Архімандрыт Язэп Строк | 10.00 |
| В. Шчэцька | 10.00 |
| Інж. С. Кісель | 10.00 |
| Сп-ня М. Станкевіч | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 480.00** |

**АЎСТРАЛІЯ:**

| | |
|---|---|
| Др. Я. Малецкі (ам. дал.) | 175.89 |
| Сп-ня А. Каранеўская (сп. Петрыш і сп. С. Каранеўскі) | 58.24 |
| Сп. Скабей (ам. дал.) | 25.00 |
| М. і Л. Нікан (ам. дал.) | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 269.13** |

**НЯМЕЧЧЫНА:**

Д. Касмовіч .... (ам. дал.) **$ 20.00**

**КАНАДА:**

А. Хрэноўскі .... (ам. дал.) **$ 10.00**

**УСЯГО РАЗАМ: (ам. дал.) $ 779.13**

**КАНАДА:**

Ад сп. А. Маркевіча (разьлік) (кан. дал.) **$ 119.44**

**Пра Каталіцкую царкву на Беларусі** напісана ў кнізе праф. Станлі Вардыса (ураджэнец Літвы): V. Stanley Vardys. The Catholic Church: Dissent and Nationality in Soviet Lithuania. New York: Columbia University Press, 1978, pp. 269-271.